Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Ашмяны
Вілейка
Маладзечна
Валожын
Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

7 лютага 2014 года №6 (980)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Дзеці ганарацца родным краем

**МЯДЗЕЛ.** У нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" 30 студзеня ўзнагародзілі пераможцаў конкурсу дзіцячых навукова-даследчых праектаў "Я родным краем ганаруся". Удзельнікі – з усёй Беларусі. Конкурс праводзіўся ў некалькіх намінацыях. Сярод пераможцаў – вучні Нарацкай сярэдняй школы №2 Мядзельскага раёна **Мікіта Вайцяшонак** і **Андрэй Бародзіч** (праект "Палявая фартыфікацыя Першай сусветнай вайны ў міжазер'і Нарач-Мядзел"), **Таццяна Вайгяніца**, **Дыяна Багдановіч**, **Паліна Міхеева** з сярэдняй школы №2 Ашмянаў ("Тры вайны ў гісторыі нашага горада"), **Дар'я Ізотава** з сярэдняй школы №2 Смаргоні, якая даследавала этымалагічныя і словаўтваральныя асаблівасці ўзнікнення імёнаў і прозвішчаў вучняў сваёй школы. Таксама ў пераможцах праект "Князёўны Гальшанскія" **Аляксандры Харэвіч і Вікторыі Трус** з Гальшанскай школы, даследаванне "Па слядах графа Тышкевіча" **Ганны Зінкевіч** з Варнянскага сада-школы Астравецкага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

### Паклапаціцеся пра бяспеку

**МАЛАДЗЕЧНА.** Да 28 лютага выратавальнікі праводзяць акцыю "Бяспека – у кожны дом!" Нягледзячы на папярэджанні работнікаў МНС, абысціся без ахвяр не атрымалася. Прафілактычныя мерапрыемствы пройдуць на прамысловасці і ў арганізацыях. Пасля супрацоўнікі МНС наведаюць навучальныя ўстановы. Спецыяльныя акцыі арганізуюць у месцах масавага збору людзей. Падчас акцыі правядуць прафілактычныя гутаркі, бацькоўскія сходы, будуць паказваць фільмы, раздаваць памяткі. Толькі павышэнне культуры жыццядзейнасці можа выправіць сітуацыю з пажарамі і гібеллю людзей на іх.

**Ксенія ЦІМАФЕЕВА,**
**інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду.**



# Узводзяць капліцу ў гонар загінулых у Першай сусветнай

Фота забяспечана Сяргеем ГАНЧАРОМ.

Макет брамы-капліцы ў гонар загінулых у Першай сусветнай вайне. Яна ўзводзіцца ў Вілейцы на ўваходзе на гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая.

**ВІЛЕЙКА. Задума па ўшанаванні памяці воінаў Першай сусветнай у Вілейцы ажыццяўляецца амаль праз стагоддзе.**

Упершыню яна з'явілася яшчэ ў 1915 годзе, а зараз у горадзе ўзводзяць браму-капліцу ў гонар загінулых у Першай сусветнай вайне салдат. Размесціцца яна на ўваходзе на гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая. Пра гісторыю гэтай задумы і як ідзе яе ажыццяўленне, расказаў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

### Бой за Вілейку

Аперацыя па вызваленні Вілейкі пачалася 22 верасня 1915 года, а праз дзень рускія войскі вызвалілі Вілейку ад германскіх акупантаў. Аперацыя стала адным з самых важных наступальных баёў рускай арміі на беларускай зямлі ў часе гэтай вайны.

У гонар бою ў лістападзе 1916 года быў названы новы полк рускай арміі – 748-ы пяхотны Вілейскі, а галоўны "аўтар" перамогі пад Вілейкай палкоўнік Грыгорый Фрост атрымаў ганаровую ўзнагароду – ордэн Святога Георгія чацвертай ступені.

Бой за Вілейку, калі руская армія спыніла націск кайзераўскіх войскаў, стаў пераломным у вайне: фронт стабілізаваўся, і пачаўся іншы перыяд вайны, які называюць пазіцыйным, або акопным. Невыпадкова імператар Мікалай II спецыяльнай тэлеграмай дзякаваў вайскоўцам за перамогу на палях бітвы Вілейкі і Маладзечна. А потым наведаў Вілейку, каб аддзячыць воінам.

Большасць загінулых пахавалі на гарадскіх могілках, якія цяпер знаходзяцца па вуліцы 1 Мая. Там было каля 300 магіл.

Потым драўляныя крыжы спарахнелі, магілы пазарасталі. І там пачалі хаваць гараджан – паверх магіл, што ўжо існавалі. Хавалі і воінаў Вялікай Айчыннай. Адны салдаты апынуліся знізу, другія – зверху. І атрымоўваецца, што ўдзельнікам вызвалення горада ў 1944 годзе помнікі ёсць, у тым ліку і на гэтых могілках, а вось іншым салдатам, Першай сусветнай, мы, нашчадкі, не змаглі паставіць мемарыял ці памятны знак.

### Памяць салдат хацелі ўшанаваць яшчэ ў 1915 годзе

Ідэя ўшанавання памяці воінаў Першай сусветнай у Вілейцы зусім не новая. Яе выказалі ўжо ў 1915 годзе. Архіепіскап Віленскі Ціхан (будучы Патрыярх Усяе Русі), калі наведваў Вілейку пасля вызвалення, у 1915 годзе, благаславіў добрыя намеры гараджан "па ўзвядзенні Царквы-помніка святога Мікалая на брацкіх могілках забітых за Веру і Айчыну воінаў". У архівах вілейскай Свята-Марыінскай царквы знойдзеныя звесткі, якія сведчаць аб тым, што нават былі зробленыя спробы будаўніцтва. Віляйчане стварылі апякунскі савет, і дзясяткі людзей ахвяравалі на гэтую справу. Пераводзілі сродкі на ўшанаванне памяці братоў па зброі афіцэры і салдаты дзеючай Арміі – пра што сведчаць квіткі грашовых пераводаў.

### Будуецца брама-капліца

Дзякуючы краязнаўцу **Анатолю Рогачу**, археолагу **Андрэю Каркотку** і іншым неабыякавым людзям даведаліся каля 300 імён пахаваных на могілках салдат. У апошнія гады з'явіўся праект будаўніцтва брамы-капліцы ў памяць аб загінулых героях. Ініцыятарам будаўніцтва стаў мастак і стваральнік мемарыяльнага комплексу ў Заброддзі **Барыс Цітовіч.** Разам з краязнаўцам Анатолем Капцюгом ён распрацаваў эскіз.

Архітэктар з Мінска **Віктар Буры** бясплатна зрабіў праектна-каштарысныя дакументы з усімі разлікамі.

Працяг на 2-й старонцы.

ЭКАЛОГІЯ

# Спрэчка пра тэст-палоскі: ці дакладныя вынікі?

**РЭГІЁН. Пасля выхаду матэрыялаў пра адкрыццё рэгіянальных інфармацыйных цэнтраў па пытаннях якасці вады ў Мядзеле і Вілейцы, на нашым сайце (rh.by) развярнулася дыскусія.**

Наведнікі абмяркоўвалі, ці можна даваць вынікам даследаванняў на ўтрыманне нітратаў у калодзежнай вадзе, зробленых з дапамогай спецыяльных тэст-палосак.

Для прыкладу, адзін з каментатараў напісаў, што "палоскі ўжо прадавалі кааператары ў 90-х, вынік завышаны і няверны ў 50%. Палоскамі правяраць якасць наіўна...".

Каб больш даведацца пра тэст-палоскі, звярнуліся ў Цэнтр экалагічных рашэнняў, пры падтрымцы якога і адкрыліся цэнтры. Кансультантам выступіў старшы выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта кіраўнік Магілёўскага экалагічнага грамадскага аб'яднання "ЭНДО" **Андрэй Пахоменка**:

– Тэст-палоскі, якія выкарыстоўваюцца ў нашым праекце, маюць адпаведны сертыфікат. Яны выраблены вядомай нямецкай фірмай, якая з'яўляецца адной з найстарэйшых фармацэўтычных кампаній ў Еўропе.

Тэст-палоскі выкарыстоўваюць мадыфікаваную рэакцыю Грыса, якая з'яўляецца стандартнай рэакцыяй для вызначэння нітратаў у вадзе. Гэта рэакцыя выкарыстоўваецца ў многіх лабараторыях, якія маюць акрэдытацыю – толькі там выкарыстоўваецца спектрафатаметрычны варыянт гэтага метаду. А тэст-палоскі дазваляюць атрымаць ацэначную характарыстыку сітуацыі. Для яе дастаткова выкарыстоўваць метады візуальнай каларыметрыі. Метад заключаецца ў візуальнай ацэнцы (гэта значыць, "на вока") інтэнсіўнасці змены афарбоўкі рэакцыйнай зоны, якая залежыць ад канцэнтрацыі рэчыва ў вадзе, якое вызначаецца. Такія варыянты метадаў нам вядомыя па тэст-палосках на ўзровень глюкозы ў крыві, на цяжарнасць, па экспрэстэстам, якія дазваляюць вызначыць кіслотнасць раствору ("лакмусавая паперка").

Калі падчас даследаванняў выкананыя патрабаванні інструкцыі, то дадзеныя тэст-сродкі дазваляюць дастаткова правільна паказаць наяўнасць забруджвання, і груба, прыблізна, ацаніць канцэнтрацыю гэтага забруджвання. Асноўная задача гэтага метаду – выявіць аб'екты, якія падлягаюць наступнаму, больш пільнаму, аналізу. Пасля атрымання выніку, блізкага да гранічна дапушчальнай канцэнтрацыі або які перавышае яе, ёсць сэнс звярнуцца ў мясцовы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі для правядзення больш грунтоўнага аналізу. Але трэба разумець, што там не будуць праводзіць такія аналізы бясплатна.



Тэст-палоскі і шкала.

У якасці прыкладу выкарыстання ацэначных вымярэнняў у побыце можна прывесці вымярэнне тэмпературы ў духоўцы. Звычайна яна вымяраецца досыць груба, вынікі вымярэнняў задавальняюць гаспадынь. Пры гэтым у лабараторыях выкарыстоўваюцца тэрмометры высокай дакладнасці. Абодва метады вымярэння тэмпературы маюць права на існаванне. Але прымяняцца яны павінны ў розных умовах і пры розных патрабаваннях да дакладнасці правядзення вымярэнняў.

У любым выпадку, выкарыстоўваць тэст-палоскі ці не – гэта выбар кожнага.

Дадам, што мы не рэкламуем ніякіх фільтраў для вады і не здабываем прыбытак з распаўсюджання палосак: яны раздаюцца насельніцтву бясплатна. Узамен мы просім толькі інфармацыю, якая патрэбная нам для разумення сітуацыі. Для нас важна, каб людзі зразумелі, што яны самі ўплываюць на якасць вады, што яны сваімі паводзінамі могуць лёгка сапсаваць тую ваду, якую п'юць, і тую ваду, якая цячэ ў рэках і раўчуках. Важна, каб людзі ўсвядомілі, што калі забрудзілі ваду зараз, то можна забыцца пра якасную ваду на гады і дзесяцігоддзі.

Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.

АСОБЫ

## Арсеню Лісу — 80 гадоў

**СМАРГОНЬ. Доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца і фалькларыст, Арсень Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 года на Смаргоншчыне.**

Скончыў філалагічны факультэт БДУ, настаўнічаў, паспытаў рэдактарскага хлеба ў выдавецтве. А з пачатку 1960-х працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук.

Ліс многія гады збіраў і аналізаваў каляндарна-абрадавы фальклор, з'яўляецца аўтарам шэрагу манаграфій і вучэбных дапаможнікаў.

За ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору беларускай народнай творчасці быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй.

Але найперш заслуга Арсеня Ліса – у вяртанні з небыцця імёнаў дзеячаў нацыянальнага руху. Ён напісаў захапляльныя біяграфіі мастака **Пётры Сергіевіча**, мастацтвазнаўцы **Міколы Шчакаціхіна**, палітыка **Браніслава Тарашкевіча**.

"Уменне бачыць на перспектыву, рэльефна абвастрана, віртуозна спалучаючы навуковы падыход да тэмы з мастацкай вобразнасцю – вось галоўныя рысы творчай манеры Арсеня Ліса", – пісаў пра даследчыка краязнаўца **Міхась Казлоўскі**.

Глеб Кандрацьеў, "Наша ніва".

ПАМЯЦЬ

## Узводзяць капліцу ў гонар загінулых у Першай сусветнай

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

Аўтары помніка, краязнаўцы, гісторыкі лічаць, што найлепшы варыянт – пабудаваць браму-капліцу на месцы цэнтральнага ўвахода на могілкі. На тэрыторыі могілак месца для ўзвядзення капліцы цяпер проста няма. А традыцыя будаўніцтва брамкаплічак існуе ў беларускім дойлідстве.

Сродкі збіраюць усёй грамадой

Кошт брамы-капліцы складае каля 300 мільёнаў рублёў. Узводзіцца яна за кошт сродкаў, якія збіраюць саборна, усёй грамадой. Летась на будаўніцтва было сабрана больш за 80 мільёнаў рублёў. Ужо закладзены падмурак брамы. І хочацца, каб яна з'явілася ў нашым горадзе сёлета, калі адзначаецца 100-годдзе пачатку Першай сусветнай вайны.

Ахвяраваць на будаўніцтва капліцы могуць усе ахвотныя. Унёскі можна пералічваць праз раённы суботнік альбо на рахунак 3641063200065, філіял №601 ААТ ААБ "Беларусбанк" г. Маладзечна, код 769, УНП 600011063, Вілейскі раённы выканаўчы камітэт.

Кожны з нас ведае пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, і мала людзей прыгадаюць, хто вызваляў тую ж Вілейку ў гады Першай сусветнай. Але мы павінны вярнуць памяць пра салдат той вайны і ўшанаваць яе ў горадзе, за свабоду якога яны аддалі жыццё.

Запісаў Алесь ВЫСОЦКІ.

## Захоўвайце правілы бяспекі пры карыстанні газам у быце

**Сёлета ў Рэспубліцы Беларусь адбыўся шэраг здарэнняў пры карыстанні газам у быце. Прычынамі гэтых здарэнняў паслужыла грэбаванне элементарнымі правіламі бяспекі.**

22 студзеня адбыўся выбух газапаветранай сумесі з наступным пажарам у індывідуальным жылым доме ў вёсцы Ваўковічы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Пры гэтым загінулі два чалавекі, у тым ліку пяцігадовае дзіця, атрымаў апёкі рознай ступені цяжкасці адзін чалавек. Прычынай выбуху газапаветранай сумесі паслужылі наступныя акалічнасці:

Па просьбе гаспадыні дома яе сусед самастойна падключаў не зарэгістраваны ў газазабеспячэнцкай арганізацыі 27-літровы газавы балона замест 50-літровага, у якім скончыўся газ. Пры гэтым вентыль на 50-літровым балоне не закрыў, і падчас яго адключэння газ ішоў у памяшканне кухні. Падключыўшы 27-літровы балон, сусед вырашыў праверыў герметычнасць злучэнняў з дапамогай запалкі. У момант з'яўлення адкрытага агню адбыўся аб'ёмны выбух газапаветранай сумесі.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду газавыя пліты ў рабочым стане, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшкання;
- самавольна падключаць, адключаць, пераставіць, разбіраць і рамантаваць газавае абсталяванне;
- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў працу прыбораў ;
- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;
- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавае абсталяванне;
- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;
- прымяняць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавага абсталявання.

Газ у сумесі з паветрам – выбухованебяспечны. Памяшканне, у якім устаноўлены газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца. Газавае абсталяванне заўсёды трымайце ў чысціні і спраўным стане.

**Адчуўшы пах газу ў памяшканні, неадкладна спыніце карыстанне газавымі прыборамі, адкрыйце вокны для скразнога праветрывання памяшкання, закрыйце ўсе краны на газавых прыборах і краны перад прыборамі ці закрыйце вентыль на газавым балоне (пры наяўнасці газабалоннай устаноўкі), выклічце (з іншага памяшкання, незагазаванага) аварыйную брыгаду па тэл.104 .**

Да прыезду аварыйнай брыгады строга забараняецца карыстацца адкрытым агнём, курыць, уключаць і выключаць электрапрыборы, электраасвятленне, а таксама пускаць пабочных людзей у загазаванага памяшканне.

За парушэнне Правілаў карыстання газам у быце газазабеспячэнцкая арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё небяспецы.

МВУ "Маладзечнаміжрайгаз" УНП100008077

● ЗРАБІ САМ

# Ласунак у глазуры



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Паклапаціцеся пра тое, каб ласунак для вашага дзіцяці быў не толькі смачны, але і карысны.

**МАЛАДЗЕЧНА. Тварожныя сыркі ў глазуры – улюбёны ласунак і дарослых, і дзяцей.**

Іх шырокі асартымент міжволі прымушае задумацца: а як выбраць самы карысны з магчымых варыянтаў?

Набыўшы ў краме звычайны сырок, без напаўняльнікаў і іншых "наваротаў", я звярнулася па каментар да начальніка вытворчасці Маладзечанскага малочнага камбіната **Лідзіі Стаўровай**, каб пачуць ад яе, якім чынам правільна выбраць карысны ласунак.

### Мамам за сыркі з кансервантамі адарвала б рукі

Мяне перш за ўсё цікавіў знешні выгляд сыркоў, іх упакоўка і тэрмін прыдатнасці.

**– Пра што гавораць кроплі вільгаці на сырку? Такі сырок няякасны?**

– Вільгаць азначае толькі адно – сырок быў замарожаны або захоўваўся ў холадзе, а потым яго вынеслі ў больш цёплае памяшканне. Вільгаць – гэта толькі кандэнсат. Пра якасць сырка можна меркаваць, толькі пакаштаваўшы яго. Калі тварожная маса з крупінкамі, гэта значыць, што пры вырабе сырка быў парушаны тэмпературны рэжым.

**– Колькі можа захоўвацца якасны, натуральны тварожны сырок?**

– Калі прадукт натуральны і пры яго вырабе не выкарыстоўваліся розныя кансерванты, то такі сырок можа быць прыдатным у ежу цягам дзесяці сутак.

**– Як вы ставіцеся да сыркоў з рознымі напаўняльнікамі?**

– Я стаўлюся да іх адмоўна. Ніякага варэння там няма, толькі фарбавальнікі і кансерванты. Канешне, яны таксама прадугледжаны нормамі, але я імкнуся пазбягаць непатрэбных дадаткаў. Калі я бачу у магазіне, што мамы, якія прачыталі, што ў складзе сыркоў ёсць розныя дадаткі, і тым не менш, набываюць іх сваім дзецям, мне хочацца ім адарваць рукі. У складзе сапраўднага сырка павінны быць толькі тварог, масла, цукар і ванілін.

### Са скаргамі на сыркі да нас не прыходзілі

Загадчыца Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Таццяна Кугара** патлумачыла, што асноўным крытэрыям ацэнкі добрага сырка з'яўляецца яго тэрмін прыдатнасці. А ўся іншая інфармацыя павінна быць указаная на яго ўпакоўцы. Не лянуйцеся, уважліва чытайце тое, што напісана на ўпакоўцы.

– Павінна вам адзначыць, што ў наш цэнтр гігіены яшчэ ні разу не звярталіся людзі са скаргамі на дрэнную якасць сыркоў.

### Сыркі, якімі яны павінны быць

У Маладзечанскім цэнтры стандартызацыі нам патлумачылі, што тварожныя сыркі выпрацоўваюцца згодна з "Тэхнічнымі ўмовамі Беларусі".

Вось што павінны ведаць пакупнікі:

1. Калі ў назве сырка няма слова "тварожны", гэта значыць, што пры вырабе яго выкарыстоўваўся не толькі не натуральны тварог, але і розныя дадаткі расліннага паходжання.

2. Упакоўка сырка павінна быць шчыльнай і якаснай, без разрываў і падцёкаў.

3. Стандартная вага сыркоў – 45-50 грамаў. Некаторыя вытворцы за кошт надзьмутай упакоўкі эканомяць на гэтым. Знешне гэта незаўважна, але вага можа быць і 35 грамаў, а кошт той жа, што і за сырок 45-50-грамовы.

4. Вільгаць на сырку – гэта вынік кандэнсату, што сабраўся пасля таго, як сырок размарозілі.

5. Тым, хто сочыць за фігурай, трэба ўсведамляць, што сырок у глазуры – гэта вельмі каларыйны прадукт. Нягледзячы на тое, што вырабляецца ён з тварагу, каларыйнасць яго большая за 200 калорый.

6. Тэрмін прыдатнасці сырка – каля дзесяці сутак. Чым тэрмін захоўвання больш, тым менш натуральнага ў такім сырку.

### Дамашні сырок смачнейшы за магазінны

Вядома, што няма нічога больш смачнага, чым тое, што прыгатавана з любоўю на ўласнай кухні. Нават такі далікатэс, як сырок у глазуры, можна прыгатаваць дома.

**Для гэтага спатрэбіцца:** *700 грамаў абястлушчанага тварагу (нашто лішнія калорыі?), 50 мл 10% вяршкоў, 50 грамаў масла, 100 грамаў цукру або цукровай пудры, 200 грамаў шакаладу.*

**Працэс падрыхтоўкі.**

1. Змешваем тварог, масла пакаёвай тэмпературы, вяршкі і цукар. Маса павінна быць не вадкай. У яе можна дадаць ванілін, какаву, арэхі – усё, што падкажа густ і фантазія.

2. Лепім з масы "сыркі" (можна рабіць іх не толькі класічнай формы, але круглымі, квадратнымі, у форме зорачак і сэрцайкаў). Змяшчаем іх у маразілку.

3. Рыхтуем глазуру. Растапліваем на вадзяной лазні шакалад, паліваем ім кожны сырок. Прыбіраем да застывання ў халадзільнік.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08 @mail.ru



| Курсы валют НБ РБ | 30.01 руб. | 6.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 630,00 | 9 660,00 |
| Еўра | 13 160,00 | 13 050,00 |
| Злоты | 3 138,60 | 3 111,26 |
| Літ | 3 814,92 | 3 783,49 |
| Расійскі рубель | 278,50 | 276,50 |
| Грыўня | 1 133,61 | 1 088,45 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9590/9650 | 9610/9665 |
| Еўра | 13080/13180 | 12980/13060 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.01 | 5.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 107500 | 119100 |
| **Сасіскі**, 1 кг | 46000 | 45050 |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 28800 | 23800 |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 86000 | 66000 |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | 28500 |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | 32500 |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 93500 | 93500 |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10500 | 9500 |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8300 | 7700 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | 13000 |
| **Алей** | 14500 | 14500 |
| **Маянэз**, 200 г | 4200 | 5000 |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | 7700 |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | 30000 |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9750 | 9750 |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6150 | 6000 |
| **Капуста**, 1 кг | 4500 | 4500 |
| **Морква**, 1 кг | 4900 | 5000 |
| **Буракі**, 1 кг | - | 4500 |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | 20000 |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | 13500 |
| **Мандарыны**, 1 кг | 12000 | 12000 |
| **Памідоры**, 1 кг | 26000 | 26500 |
| **Агуркі**, 1 кг | 26000 | 37500 |
| **Перац**, 1 кг | 28000 | 32000 |
| **Вінаград**, 1 кг | 20000 | 20000 |
| **Бананы**, 1 кг | 11800 | 12500 |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | 9000 |
| **Грушы**, 1 кг | 18650 | 17000 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | 13500 |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | 80000 |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | 42000 |
| **Бульба**, 1 кг | - | - |
| **Сала**, 1 кг | - | 55000 |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | 50000 |

**ПРАКУРАТУРА, СУД**

# Шэсць год турмы за пяць грамаў



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

30-гадовы мужчына будзе расплачвацца шасцю гадамі турмы за адну самакрутку з наркотыкам.

**АШМЯНЫ. Ашмянец пазбаўлены свабоды за набыццё курыльнай сумесі, якую падзяліў з сябрам.**

Здарэнне адбылося вечарам 14 кастрычніка. На Індустрыяльным праспекце ў мікрараёне Карані ў Смаргоні ён набыў пяць грамаў здробненага рэчыва расліннага паходжання. Яно ўтрымлівае асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва. Наркотык мужчына прывёз дадому і ў той жа вечар прадаў за адзін мільён рублёў 2,35 грама.

У яго засталося 2,65 грама, якія сам выкурыў у сваім гаражы.

Мужчына патлумачыў, што яго папрасіў знаёмы дапамагчы набыць для яго курыльную сумесь і даў мільён. Гэтыя грошы яму перадалі для правядзення аператыўна-вышуковага мерапрыемства – праверачнай закупкі. Мужчына звязаўся са знаёмым, спытаўся, ці мае сумесь, і паехаў па яе ў Смаргонь. У машыне той знаёмы перадаў яму скрутак паперы, сказаў, што сумесь добрай якасці. Яе не ўзважвалі, але прыкінулі, што пяць грамаў.

Пасля таго, як ашмянец перадаў сумесь першаму заказчыку, той добраахвотна перадаў наркотык аператыўным супрацоўнікам упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гродзенскай вобласці.

### Пакаранне змякчылі

Віну ашмянца пацвярджаюць матэрыялы справы: пратакол выдачы грошай для правядзення праверачнай закупкі, пратакол выдачы скрутка з рэчывам, пратаколы слыхавога кантролю размоў у гэты дзень.

Суд улічыў, што ашмянец здзейсніў асабліва цяжкае злачынства, якое цягне пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

Аднак сукупнасць абставін суд палічыў магчымым прызнаць выключнымі: раскаянне, добраахвотны ўдзел у аператыўна-вышуковых мерапрыемствах. Яны прынеслі станоўчы вынік. Гэта дае падставы прызначыць пакаранне трохі мякчэйшым за ніжэйшую мяжу, прадугледжаную Крымінальным кодэксам.

Суд прыгаварыў мужчыну вінаватым у незаконнай куплі з мэтай збыту, захоўванні, перавозцы і збыце асабліва небяспечнага псіхатропнага рэчыва.

Суд прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на шэсць год у выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Асуджанаму 31 год. Нарадзіўся ў Смаргоні, працаваў у Ашмянах. Несудзімы. Жанаты, выхоўвае дваіх дзяцей.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ, старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

**ТРАЎМАТЫЗМ НА ПРАЦЫ**

## Нага работніцы льнозавода трапіла ў прэс

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб дэблакаваць нагу з абсталявання, спатрэбілася дапамога выратавальнікаў.**

Здарэнне адбылося ў пятніцу, 31 студзеня, у час працы другой змены.

Як паведамілі ў Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы працы, жанчыну даставілі ў бальніцу, дзе зрабілі аперацыю.

Аднак гаварыць пра наступствы здарэння і яго прычыны пакуль рана. Спачатку дактары даюць заключэнне аб ступені цяжкасці траўмы. Пасля інспекцыя атрымлівае паведамленне ад наймальніка разам з заключэннем. Цягам 15 рабочых дзён вядуць расследаванне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**УВАГА! ВЫШУК**

## Шукаюць за нявыплату аліментаў



**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае за ўхіленне ад выплаты аліментаў, пазык на карысць фізічных і юрыдычных асоб, на карысць дзяржавы Аляксандра Мікалаевіча Варанкова.**

Ён нарадзіўся 2 мая 1978 года. Жыў у Алёхнавічах па вуліцы Маладзёжнай.

Усіх, хто валодае інфармацыяй аб месцы знаходжання Аляксандра Варанкова, пераканаўча просім паведаміць па тэлефонах у Маладзечанскі райаддзел міліцыі: **8(0176) 77-16-56, 74-96-83**, ці па тэлефоне **102**.

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі.**

**СЛУЖБА 101**

## Апавяшчальнік дапамог пазбегнуць бяды

**ВІЛЕЙКА. Пажар у доме ў вёсцы Нароча Вілейскага раёна здарыўся ў ноч на 1 лютага.**

У гэтым доме жывуць муж і жонка. Цягам дня яны цяплілі печку – апошні раз каля 19 гадзін. А ў першай гадзіне ночы гаспадыня праз сон пачула, што спрацаваў пажарны апавяшчальнік. У доме было поўна дыму. У хаце яна крыніцы ўзгарання не знайшла, адчыніла люк на гарышча і ўбачыла, што там шугае агонь.

Гаспадары патэлефанавалі на 101, сабралі дакументы і выйшлі з хаты.

Першая аўтацыстэрна з тых, што накіраваліся па выкліку, прыехала хуценька: пажарны аварыйна-выратавальны пост якраз знаходзіцца ў вёсцы. Загаранне неўзабаве ліквідавалі. У выніку толькі пашкоджана перакрыцце гарышча і латы даху, расказаў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк.**

**Аддзел інфармацыі.**

## На пажары ў вёсцы Маршалкі загінуў гаспадар дома

**ВАЛОЖЫН. Першага лютага спецыялісты МНС выехалі на пажар у вёску Маршалкі, што на Валожыншчыне.**

– Калі выратавальнікі прыбылі на месца здарэння, убачылі, што дах жылога дома гарыць адкрытым полымем. У выніку пажару дах і столевае перакрыцце дома былі знішчаныя цалкам, сам дом выгараў знутры, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" інжынер Валожынскай інспекцыі дзяржпажнагляду **Ігар Хныкаў.**

– Пры разборы драўляных канструкцый дома ў памяшканні кухні супрацоўнікі МНС выявілі труп гаспадара дома, 55-гадовага мужчыны. Па словах суседзяў, мужчына не злоўжываў спіртнымі напоямі, не курыў. У дзень, калі здарылася трагедыя, гаспадар паліў дзве печкі адначасова.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі пячнога абсталявання і расколіна ў коміне, – дадаў Ігар Хныкаў.

**Наталля ТУР.**



**ЗДАРЭННІ**

## Ад матраца загарэўся дом

**ВІЛЕЙКА.** Пасля 19 гадзін 31 студзеня вілейскім выратавальнікам паступіла паведамленне пра загаранне ў жылым доме ў вёсцы Баранцы.

Туды накіраваліся чатыры аўтацыстэрны.

– Па прыбыцці на месца выратавальнікі ўбачылі, што дом ахоплены агнём, – расказаў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк**. – На той момант у доме нікога не было. У выніку драўляны дом, абкладзены цэглай, згарэў, знішчаная маёмасць.

Гаспадар каля 17 гадзін вярнуўся дадому, распаліў печ. Паклаў на яе сушыцца матрац. Выйшаў з хаты па дровы, затрымаўся. А калі вярнуўся, то ўбачыў, што матрац пачаў гарэць. Хацеў выцягнуць яго, ды не ўдалося: той разваліўся. Так што, гарэла ўжо і на печы, і на падлозе. Мужчына выбег з дому і папрасіў суседзяў выклікаць выратавальнікаў.

**Аддзел інфармацыі.**



## Гарэў двухпавярховы дом у вёсцы Любань




Фота mchs.gov.by.

Выратавальнікі тушаць пажар у двухпавярховым доме ў Любані.

**ВІЛЕЙКА.** У трынаццаць гадзін 2 лютага паведамілі аб узгаранні ў ведамасным двухпавярховым доме ў вёсцы Любань. Ужо праз 12 хвілін першае падраздзяленне райаддзела па надзвычайных сітуацыях было на месцы здарэння.

На першым паверсе быў бачны дым. Са слоў суседзяў, людзей ў доме не было – жыхары адчулі пах дыму і выбеглі адтуль. Як потым стала вядома, задымленне ўбачылі дзеці і паведамілі бацьку.

Загаранне адбылося ў калідоры першага паверха: там выгарала маёмасць, абгарэлі дзверы. Агонь праз перакрыцце столі перакінуўся на другі паверх, пашкодзіў падлогу, сцены.

Прычына пажару ўстанаўліваецца, расказаў інжынер Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ШКОЛЬНЫ ТЭАТР

# Каханне Лесуна і Русалкі, ці Як стварыць ідылію?



Фота забяспечана Таццянай БАБЕЙ.

Мікіта Талстой і Ірына Разнічэнка.

**МАЛАДЗЕЧНА. Прэм'ера спектакля "Ідылія: на жаль ці ах?" узорнага тэатра-студыі "ТэсТ" адбылася ў гімназіі №10 у пятніцу, 31 студзеня.**

Рэжысёр-пастаноўшчык **Таццяна Бабей** сама напісала п'есу, у аснову якой ляглі раннія апавяданні Антона Чэхава, у тым ліку і "Наіўны лясун", пра якое наогул мала хто ведае.

– Такога эксперыменту яшчэ ніколі не было: дзве розныя інтэрпрэтацыі аднаго і таго ж матэрыялу для пастаноўкі з'явіліся адна за адной, – адзначыла перад спектаклем Таццяна Бабей. – Летась мы паставілі камедыю ў двух дзеях, якая доўжылася дзве з паловай гадзіны. А сёлета прадстаўляем скарочаны спектакль з аднолёным акцёрскім складам. Цяпер гэта не проста мазаіка з асобных апавяданняў, а цэлая гісторыя… кахання.

Кажуць, што спектакль адбыўся толькі пасля 6-7 праглядаў, але і першы раз ён падаўся мне ўдалым. Усё склалася дзіўным чынам: яркая акцёрская ігра, мінімум дэкарацый, дакладныя музычныя штрыхі – гэта стварыла непаўторную паветраную "чэхаўскую" атмасферу.

Больш за ўсё ўразіла ігра выканаўцы галоўнай ролі **Мікіты Талстога** – яго шчырасць, уменне адчуць і правільна перадаць кожную эмоцыю, кантакт з гледачамі і калегамі па сцэне. Юнак прыйшоў у "ТэсТ" тры гады таму і зусім не меў досведу, а цяпер яго можна назваць майстрам імправізацыі.

## Што дапамагае на сцэне

Аднак словы захаплення я б сказала ў адрас кожнага з 17 юных акцёраў. Да прыкладу, запомнілася сцэна з закаханымі гімназісткамі, якіх гралі **Ян Грыб** і **Серафіма Жукоўская**. Летась на фестывалі "Чароўны куфэрак" яны нават былі адзначаныя дыпломам як "самая рамантычная і шчырая пара".

– Я іграю ролю закаханай гімназісткі, якая знаходзіцца ў прадчуванні першага пацалунка, – распавядае Серафіма. – Раней мне было цяжка перадаць усе тонкасці гэтага персанажа, бо яшчэ не мела ўласнага досведу. Цяпер мне знаёмае пачуццё першага кахання, і таму ўжыцца ў ролю значна лягчэй. Безумоўна, дапамагае і падтрымка майго партнёра, бо разумець адзін аднаго на сцэне вельмі важна.

Дзяўчынка займаецца тэатрам больш за сем гадоў і практычна ўвесь вольны час прысвячае гэтаму захапленню. Але на прэм'еры былі і тыя, хто выйшаў на сцэну ўпершыню. У ліку дэбютантаў дзесяцікласнікі **Уладзіслаў Мацуновіч** і **Васіль Сіняк**, васьмікласнік **Максім Сцепановіч**, які ўдала справіўся з ролямі слугі і малодшага брата.

## Перадаюць імпульсы энергіі

У красавіку юных акцёраў чакае міжнародны фестываль "Паралельныя сусветы". Шматлікія рэпетыцыі, конкурсы і фестывалі, агульныя святы і чаяванні з'ядналі ўсіх удзельнікаў тэатра-студыі "ТэсТ" у дружны калектыў. Удзельнікі нават маюць асаблівыя традыцыі. Напрыклад, перад пачаткам спектакля яны становяцца ў круг і па чарзе націскаюць адзін адному рукі, каб перадаць імпульсы сваёй энергіі, абменьваюцца ўсмешкамі і жадаюць поспехаў. А пасля выступлення збіраюцца разам за круглым сталом, каб выпіць гарбаты, падзяліцца пачуццямі і падзякаваць адзін аднаму за падтрымку.

– Мне вельмі спадабалася пастаноўка. Хаджу на кожную прэм'еру гэтай тэатральнай студыі і заўсёды застаюся ў захапленні. Усё так жыва, ярка і эмацыйна! – падзялілася ўражаннямі адна са шматлікіх глядачак навучэнка гімназіі №6 **Ксенія Рагель**.

І пакуль уся зала стоячы і з крыкамі "Брава!" апладзіравала юным артыстам, яны прысвячалі свае апладысменты вялікаму класіку, партрэт якога сімвалічна з'явіўся на сцэне.

Нягледзячы на тое, што апавяданні Антона Чэхава былі напісаныя больш за 100 год таму, тэмы і праблемы, якія закранае спектакль, актуальныя і цяпер – неўзаемнае каханне, няўпэўненыя крокі да першага пачуцця, жаніцьба па разліку, жаданне бацькоў выдаць дачку замуж. "Дзе ж тая ідылія? – задумалася я. – І ці ёсць яна ўвогуле?" У жыцці – на жаль, а на сцэне – ах!

**Юлія СТРЫГА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

ІМПРЭЗЫ

# Фільм пра Міхала Агінскага паказалі ў перапоўненай зале



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Не кожная культурная падзея збірае столькі людзей, што госці сядзяць на падлозе.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Рэжысёр фільма Анастасія Мірашнічэнка.

**МАЛАДЗЕЧНА. Зала кінатэатра "Радзіма" была цалкам запоўненая і яшчэ каля 60 чалавек стаялі.**

Да прэзентацыі фільма "Рана на сэрцы. Міхал Клеафас Агінскі" ў фае зладзілі выставу графікі **Таццяны Туроўскай**. Выстава таксама прысвечаная знакамітаму земляку.

Падзея адбылася ў чацвер, 30 студзеня. На прэзентацыі былі рэжысёр фільма **Анастасія Мірашнічэнка** ("Беларускі відэацэнтр"), дырэктар музкаледжа і адзін з удзельнікаў фільма **Рыгор Сарока**, оперны спявак з Маладзечна **Уладзімір Александровіч**, начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч**.

Падчас імпрэзы людзі пачыналі садзіцца проста на прыступкі.

### "Агінскі жыве ўва мне"

Фільм складаецца з дзвюх частак: дакументальнай і мастацкай, якія змяняюць адна адну. Вядомыя даследчыкі жыцця і творчасці Міхала Клеафаса Агінскага распавядаюць пра фрагменты яго жыцця, а пасля падзеі жыцця памастацку абыгрываюцца.

Праект зроблены па заказе Міністэрства культуры. Ён адразу на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. Але мог быць на двух.

Рэжысёр Анастасія Мірашнічэнка ўдакладняе:

– Мы адстаялі, каб была беларускамоўная версія, таму што першапачаткова задумваўся рускамоўны арыгінал. Я не ўяўляю, як пра нашу гісторыю, пра Міхала Клеафаса, можна распавядаць па-руску. Але ўлічваючы, што да нас прыязджае шмат турыстаў, для якіх руская мова больш зразумелая, стварылі і такі варыянт.

**– Ці стала асоба Агінскага для вас асаблівай?**

– Дзяўчаты зайгралі яго мелодыю – у мяне слёзы наварочваюцца. Я яго музыку спакойна слухаць не магу. Я праніклася ім, ён жыве ўва мне. Прайшло паўгода пасля заканчэння здымак, здавалася, ну што тут ужо плакаць? А як пачую "Развітанне з Радзімай" – у мяне вось, бачыце, слёзы. Падчас працы над фільмам я прачытала столькі ўсяго, той літаратуры, якая толькі нядаўна перакладзеная і сёлета выйдзе ў свет. І гэта мы скарысталі ў фільме. Але каб расказаць пра жыццё Міхала Клеафаса Агінскага, 39 хвілін крайне мала, мы прайшліся па вяршках! Гэтая постаць годная добрага, 1,5-гадзіннага мастацкага фільма ці нават якаснага серыяла. Там жа столькі лёсаў! Вы ўяўляеце, як нам даводзілася цікавыя фрагменты адсякаць, гэта было вельмі складана.

### Дыскі замест падручнікаў

Анастасія Мірашнічэнка ўпэўненая ў запатрабаванасці фільма пра нашага земляка:

– Гэта тое, чым мусім ганарыцца. Праз яго жыццё можна вывучаць гісторыю. Такія фільмы варта паказваць у школе, таму што навучэнне праз лёс чалавека запомніцца. Дзякуючы гэтаму можна сапраўды зразумець і палюбіць краіну, у якой жывеш, а значыць, ганарыцца ёй.

Фільм будзе прадавацца ў месцах, дзе звычайна рэалізуюць дыскі, у некаторых кніжных крамах.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Некалькі фактаў пра Агінскага, агучаныя ў фільме:

- Цягам 30 год у прэсе час ад часу з'яўляліся паведамленні пра яго трагічную смерць.
- Пачаў палітычную кар'еру ў 19 год, калі ўвайшоў у Сойм Рэчы Паспалітай.
- Называў сябе грамадзянінам замест высакароднага тытула.
- Перад смерцю перахрысціў дзіця дачкі Эмы, якое толькі нарадзілася.





ВЫСТАВЫ

# Зацікавіць кнігай з дапамогай ляselкі

**МЯДЗЕЛ. Не кнігі, не часопісы, а лялькі прадстаўленыя на новай выставе ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка.**

Называецца яна "Гераіні любімых раманаў", а пачалася 28 студзеня.

Тут і Джэйн Эйр, Маргарыта са знакамітага рамана Міхаіла Булгакава, Эма Бавары з рамана "Мадам Бавары" Флабера, Нора Хельмер ("Лялечны дом" Ібсэна) – усяго 16 лялек з калекцыі "Дамы эпохі". А побач і кнігі адпаведных размешчана.

– Гэта выстава цікавіць наведнікаў бібліятэкі: прыгожыя лялькі ў вытанчаных строях прыцягваюць іх увагу. А потым, мяркую, і кнігу пачытаць захочацца, – кажа загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі ЦРБ **Ірына Цыгельнікава**. – І нашым бібліятэкарам цікава было гэту выставу афармляць.

А дапамаглі ім ажыццявіць ідэю новай выставы мядзяльчанка **Святлана Чарняўская** і пяцікласніца сярэдняй школы №2 райцэнтра **Ксенія Лявонава**: яны прынеслі ў бібліятэку гэтыя лялькі.

– І калі хто яшчэ з мядзяльчанак захоча прынесці лялькі з калекцыі "Дамы эпохі" (іх выпускалася больш), то будзем толькі рады, – дадае Ірына Цыгельнікава.

Працаваць выстава будзе не менш за месяц.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Лялькі на выставе ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка ў Мядзеле.

КЛУБЫ

# "У нас усе маладыя"

**АСТРАВЕЦ. Удзельніцы клуба "Актыўнае даўгалецце" ладзяць чарговае пасяджэнне ў Дзень закаханых, 14 лютага, а 15 гадзіне.**

Пры цэнтральнай раённай бібліятэцы дзейнічае клуб "Актыўнае даўгалецце", сумесны праект з Чырвоным Крыжам. Пад кіраўніцтвам намесніцы загадчыцы бібліятэкі **Вольгі Пінчук** жанчыны на заслужаным адпачынку збіраюцца разам, каб расказаць пра свае клопаты і перажыванні, падзяліцца радасцямі.

– Кожная сустрэча – гэта падзея, – распавядае загадчыца бібліятэкі **Наталля Ачарэтава**. – Летась мы віншавалі сваіх удзельніц з юбілеямі, паказваючы пра кожную з іх спецыяльна зняты відэаролік. Добра запомнілася навагоднее пасяджэнне "Рэтраёлка". Жанчыны рабілі сваімі рукамі такія ёлачныя цацкі, якія былі ў іх дзяцінстве. Імі мы ўпрыгожылі ёлку ў чытальнай зале.

На пытанне, колькі год самай сталай ўдзельніцы клуба, Наталля Ачарэтава адказвае: "У нас усе маладыя!"

У клубе каля 20 удзельніц. Пераважна гэта настаўніцы, работнікі культуры. Клуб адкрыты і для новых удзельніц на заслужаным адпачынку, якія могуць далучыцца да яго падчас пасяджэння.

### Рыхтуюць сустрэчу з Наталляй Батраковай

Адна з найбольш папулярных сучасных аўтараў Беларусі Наталля Батракова прыедзе на сустрэчу з чытачамі ў Астравец. Імпрэза адбудзецца ў бібліятэцы, паведаміла загадчыца ўстановы.

Верагодна, сустрэча адбудзецца ў канцы лютага, але дакладная дата пакуль невядомая. Пра яе мы паведамім у наступных нумарах "РГ".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КОНКУРСЫ

# "Настаўнікі года Вілейкі" працуюць у гімназіі "Логас"

**ВІЛЕЙКА. На гэтым жа тыдні фінал раённага этапу конкурсу "Настаўнік года" адбыўся і ў Вілейцы.**

Аб тым, як да перамогі ішоў удзельнік з гімназіі №1 "Логас", распавядае яго калега, настаўніца беларускай мовы і літаратуры **Алена Мачэль**.

**Яўген Мароз**, настаўнік фізікі гімназіі № 1 "Логас", з поспехам прайшоў першы (завочны) тур конкурсу, дзе прадстаўляў праект адкрытага ўрока і сістэму ўласнай педагагічнай дзейнасці "Навучаючы, я выхоўваю...". А тэма абагульнення вопыту ў Яўгена была таксама цікавай: "Практычная накіраванасць ў выкладанні фізікі як сродак развіцця пазнавальных і творчых здольнасцяў навучэнцаў".

На другім этапе конкурсу Яўген правёў адкрыты ўрок у незнаёмым класе, у іншай школе і па тэме, якую паказала журы. Але гэта было не адзінае выпрабаванне.

У рамках другога этапу конкурсу настаўнікі (ўдзельнічала і **Ірына Пуня**, настаўніца англійскай мовы) праходзілі тэставанне ў мэтах праверкі ведаў у галіне прадмета, які яны выкладаюць, педагогікі і псіхалогіі, правялі майстар-клас для педагогаў іншых школ.

І вось трэці тур, самы складаны. Тут трэба было публічна прадставіць сістэму уласнай педагагічнай дзейнасці "Навучаючы, я выхоўваю...", творча прадставіць сябе на сцэне і нават правесці міні-ўрок на сцэне СШ №5.

Актыўна падтрымлівалі ўдзельнікаў конкурсу іх калегі. Колькі пазітыўных эмоцый, колькі незабыўных здагадак, параўнанняў, чаканняў.

І вось, нарэшце, журы падводзіць вынікі. Першае месца ў намінацыі "фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка" заняў Яўген Георгіевіч Мароз, настаўнік фізікі гімназіі №1 "Логас". У намінацыі "замежная мова" першае месца таксама ў настаўніцы гімназіі №1 "Логас" Ірыны Мікалаеўны Пуні.

Шквал апладысментаў. Радасныя ўсмешкі і віншаванні. Мы віншуем нашых калегаў і жадаем поспехаў і перамогі на наступных этапах конкурсу!

**Алена МАЧЭЛЬ, настаўніца беларускай мовы і літаратуры вілейскай гімназіі №1 "Логас".**


Фота забяспечана Аленай МАЧЭЛЬ.

**Яўген Мароз, настаўнік фізікі гімназіі № 1 "Логас.**

# Названыя пераможцы "Настаўніка года"

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінал другога (раённага) этапу конкурсу прафесійнага майстэрства "Настаўнік года" адбыўся ў чацвер, 30 студзеня, у гімназіі-каледжы мастацтваў.**

Па выніках папярэдніх этапаў конкурсу, журы вызначыла 12 фіналістаў, якія змагаліся за званне лепшага ў шасці намінацыях. У фінале канкурсанты прадстаўлялі свае майстэрства ў двух конкурсах: творчае самапрадстаўленне на сцэне і міні-ўрок (занятак) на сцэне.

Пераможцамі у сваёй намінацыі сталі: **Таццяна Гайшун**, настаўніца матэматыкі сярэдняй школы №14 – намінацыя "фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка";

**Максім Міхайлаў**, настаўнік замежнай мовы гімназіі-каледжа мастацтваў – намінацыя "замежная мова";

**Вольга Пагірэйчык**, настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі №10 – намінацыя "беларуская мова і літаратура, руская мова і літаратура";

**Ірына Жаўняровіч**, настаўніца пачатковых класаў гімназіі №3 – намінацыя "пачатковыя класы";

**Таццяна Курыловіч**, настаўніца пачатковых класаў гімназіі №6 – намінацыя "музыка, выяўленчае мастацтва, працоўнае навучанне, чарчэнне, фізічная культура і здароўе, дапрызыўная падрыхтоўка";

**Максім Самаль**, настаўнік гісторыі СШ № 5 – намінацыя "гісторыя, грамадазнаўства, геаграфія, хімія, біялогія".

Пераможцы прадстаўляць Маладзечна ў трэцім (абласным) этапе конкурсу.

**Наталля ТУР.**

# Чым забаўлялася пакаленне дзевяностых



Фота забяспечана Наталляй ТУР.

Папяровыя лялькі — улюбёнавая забава дзяўчынак 1990-х.



Фота забяспечана Наталляй ТУР.

Старонка са спеўніка.




Фота забяспечана Наталляй ТУР.

Гульня ў судовую справу — сур'ёзны занятак.

**МАЛАДЗЕЧНА. Першая субота лютага, калі ва ўсіх школах ладзяцца вечары сустрэчы аднакласнікаў, традыцыйна вяртае нас ва ўспаміны дзяцінства.**

Калі паміж былымі аднакласнікамі абмеркаванае тое, дзе хто працуе, у каго якая сям'я і як усе змяніліся або засталіся ранейшымі, застаецца толькі ўспамінаць, якімі мы былі 10-15 гадоў таму. Якія песні слухалі, хто ў каго быў закаханы і як аб гэтым можна было расказаць сваёй сяброўцы, каб сам аб'ект любові пра гэта не здагадаўся. Сацыяльных сетак, ды і інтэрнэта ўвогуле, тады не было.

Увесь "наш інтэрнэт" змяшчаўся ў звычайных школьных сшытках, дзе можна было знайсці выразкі з газет і часопісаў з любімымі акцёрамі, лірычныя вершы як вядомых паэтаў, так і ўласнага аўтарства (адны і тыя ж вершы безліч разоў перапісваліся з аднаго сшытка ў другі, таму не дзіўна, што аўтарства незваротна гублялася), мудрагелістыя фразы "пра сэнс жыцця", засушаныя кветачкі, білеты з кінатэатраў, фанцікі ад цукерак і жуйкаў, укладзеныя паміж старонкамі, выкананыя фламастарамі разнастайныя ўзоры на палях сшыткаў; "сакрэцікі" (у складзеным у канверцік лісце было напісана нешта тайнае), розныя "вражбіткі" і, вядома ж, самыя папулярныя анкеты і спеўнікі.

## Дзявочыя анкеты

Сваю анкету дзесяцігадовай даўніны я прыхапіла з сабой на вечар сустрэчы. Дзіўна, але ні адна з маіх былых аднакласніц не ўспомніла, як запаўняла. І за дзесяць гадоў ні адзін свой адказ (нават колер валасоў і дату нараджэння) ніводная з іх не паўтарыла.

У маёй анкеце было ўсяго 17 пытанняў, а я памятаю і такія, дзе трэба было адказаць на 101 пытанне. І адказвалі ж!

Усе анкеты, вядома, пачыналіся з указання імя і даты нараджэння. А далей ішлі любімыя кветкі і колеры, любімыя імёны і святы, любімыя акцёры і актрысы і ўсё-ўсё любімае, што можна толькі сабе ўявіць.

10 гадоў таму на пытанне, хто твой любімы акцёр, маладзечанка **Ілона Прастак** адказвала, што гэта Алек Болдуін, а цяпер любімым акцёрам стаў Сяргей Безрукаў. Яшчэ для параўнання: тады любімым відам спорту ў Ілоны было фігурнае катанне, цяпер біятлон, тады любімай кнігай быў раман "Знесеныя ветрам", цяпер гэта "Партрэт Дарыяна Грэя", раней любіла глядзець тэлевізар, цяпер любіць падарожнічаць.

Пытанні, хто табе падабаецца, у каго ты закаханая, заставаліся без адказу. Або замест імя ставіліся зорачкі. Так і зараз, на пытанне, у каго ты закаханая, сяброўка палічыла за лепшае праігнараваць. Дзяўчынкі, яны і цяпер у душы такія ж дзяўчынкі.

Апошнім пытаннем анкеты было таксама традыцыйнае пытанне: твае пажаданні гаспадыні анкеты, або задай сваё пытанне гаспадыні анкеты.

Карыстаючыся сучаснымі сродкамі сувязі, я адаслала фотаздымак адказу на анкету сваёй яшчэ адной аднакласніцы **Вользе Пячэрскай**, што не была на вечары сустрэчы. Адказ атрымала адразу:

– Я ледзьве не заплакала... Клаааасссс... Шкада, што ў мяне не захавалася ні адной... Душэўна так)). Дзякуй за настальгію.

## Спеўнікі – плэйлісты 90-х гадоў

Спеўнікі былі ва ўсіх дзяўчат. Гэта я памятаю дакладна. Таму што песні перапісваліся адна ў адной. І калі раптам адна дзяўчына па нейкай прычыне не дачуе радок з песні, такая памылка паўтаралася ў кожным спеўніку, блыталі не толькі радкі песні, але і імёны выканаўцаў. Напрыклад, у спеўніку-анкеце адной маёй сяброўкі, якая прыехала з Германіі, ва ўсіх дзяўчынак улюбёная спявачка была Сафіра Тару (Сафія Ратару, як потым высветлілася).

Тыповы спеўнік складаўся з анкеты яго гаспадыні, фотаздымкаў "зорак" з часопісаў тых часоў (у мяне быў фотаздымак Валерыя Лявонцьева і Лаймы Вайкуле, якія я выдрала са спеўніка старэйшай суседкі), падзел сакрэту (часцей за ўсё, загнуты трохкутнікам ліст паперы з надпісам: "Сакрэт – глядзець нельга!", разгарнуўшы які кожны мог прачытаць: "Ох, якая ты свіння, тут напісана ж – нельга!") і, нарэшце, уласна песень.

У маіх сяброў-хлопчыкаў таксама былі спеўнікі, але без малюначкаў і анкетак. На першай старонцы такіх спеўнікаў была вычарчаная табліца гітарных акордаў, а над словамі кожнай песні былі пазначаны тыя самыя акорды, па якіх трэба іграць. Мы, дзяўчынкі, перапісвалі песні разам з акордамі, спадзеючыся, што калі-небудзь абавязкова будзем і мы іграць на гітары.

Песні, што перапісваліся ў хлопчыкаў, былі гуртоў "Агата Крысці", "ДДТ", "Чыж", "Чайф" і іншых расійскіх рок-гуртоў.

Ну і, канешне ж, куды без песень, якія спяваліся ўсім дваром: "Афганістан", "Белая сукенка", "Джанэль", "Пунсовыя ветразі" і шматлікія іншыя песні.

## Іншыя "даінтэрнэтаўскія" забавы

Цяпер цяжка ўявіць сучаснае пакаленне, выхаванае на "Контрстрайку", "Варкрафце" і іншых гульнях. Ці будуць цяперашнія хлопчыкі і дзяўчынкі гуляць у школу ці ў магазін, дзе грашыма паслужаць лісточкі з дрэў.

У маім двары мы гулялі ў цягнік, дзе білетамі на праезд былі таксама тыя ж лісточкі. Ліст бэзу мог давезці да Сімферопаля, а вішні – толькі да Фаніпаля.

Дзесяць год таму звычайная дзяўчынка будучы журналіст **Зоя Хруцкая** вяла судовае пасяджэнне, на якім слухалася справа герояў казкі "Сава і дзяцел". Патлумачце сённяшнім пяцікласнікам, як трэба заводзіць справу, падаваць апеляцыю і патрабаваць, каб суд праходзіў на беларускай мове. А потым рашэннем суда асудзіць бедную саву на шэсць гадоў з канфіскацыяй гнязда. Будзе ім цікава?

Напрыканцы ўзгадаю яшчэ адну народную дзявочую забаву. Папяровыя лялькі, якім малявaліся і выразаліся самыя модныя ўборы 90-х гадоў. І захоўвалі іх у звычайным сшытку, у якім лісты былі перакладзеныя напалову, і гэта быў не сшытак, а сапраўдная шафа, дзе ўсё лялечнае адзенне было складзенае строга па сваіх аддзелах.

Канешне, варта было б успомніць і тыя калекцыі, што мы збіралі: і маркі, і значкі, і каляндарыкі, узгадаць тыя гульні, у якія мы гулялі (як скакалі праз гумку або збівалі калені, даганяючы адно аднаго ў "Казаках-разбойніках", і яшчэ шмат-шмат іншых гульняў), але нясціпла ўзгадваць тое, што адбывалася толькі са мной.

Таму, паважаныя чытачы, я заклікаю вас таксама прыняць удзел у складанні "Энцыклапедыі дзяцінства". Дзяліцеся з намі вашымі ўспамінамі і фотаздымкамі.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

● ГІСТОРЫЯ

# Францішак Сяліцкі: **“Гэтай манаграфіяй прагну сплаціць доўг краіне”**



Фота Уладзіміра БАГДАНАВА.

Даўгінаўская капліца.

**”Прадоўжым знаёміць з вытрымкамі з кнігі Францішка Сяліцкага: “Даўгінаўска - Будслаўска - Крывіцкі рэгіён на даўняй Віленшчыне (гістарычная хроніка)”**

## “Ашмянскі шляхціц: адна нага ў боце, другая ў лапці”

Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай прынесла вялізныя знішчэнні беларускім землям, піша Францішак Сяліцкі:

*“У 1662 годзе сейм Рэчы Паспалітай вызваліў увесь Ашмянскі павет ад выплаты пратэрмінаваных падаткаў. Даўгінаўскія мяшчане складалі скаргі на ваенныя шкоды, узгадвалі ў іх аб знішчаных ў 1660 годзе крамах. Вынікае з тых петыцый, што гандлявалі ў тых крамах між іншым гарэлкай. Вайна таксама закранула будслаўскі кляштар. Царскія войскі два разы наязджалі на гэта мястэчка. Вядома, што цяжка паранілі тамтэйшага манаха айца Габрыэла, які памёр. Быў таксама забіты невядомы манах…*

*Мала ведаем аб бытавой сітуацыі іх жыхароў. Аднак можам дадумаць, што не была яна добрая, асабліва ў сувязі са знішчэннямі, якія прынесла вайна. З мэтай ліквідацыі былі ўведзеныя шарваркі (дарожныя павіннасці). Тэрмін шарварак ад тых часоў стала ўвайшоў у слоўнік мясцовых беларусаў. На тэрыторыі Беларусі ў XVII стагоддзі выбухалі сялянскія бунты, у 1692 годзе меў месца такі бунт у вёсцы Чэля Ашмянскага павета. Аднак у нашым краі відавочна такіх бунтаў не было, бо няма дадзеных на гэту тэму. Не было там вялікіх зямельных уладанняў, у якіх у асноўным тыя бунты ўзнікалі. У Ашмянскім павеце пераважала дробная шляхта, у тыя часы нават існавала іранічнае выслоўе: “ашмянскі шляхціц: адна нага ў боце, другая ў лапці”. Адначасова гэта быў самы населены павет Віленскага ваяводства”.*

## Даўгінава славілася сваімі кірмашамі

*У палове XVIII стагоддзя Даўгінава славілася сваімі кірмашамі, на якія прыязджалі між іншым купцы з Расіі. У 1766 годзе была заснавана там так званая прыкаморка скарбовая, як філія мінскай каморы скарбовай (другая такая каморка знаходзілася ў Радашкавічах). Праўдападобна, у палове XVIII стагоддзя да аднаго з варыянтаў беларускай балады пра сястру і братоў-разбойнікаў трапілі строфы аб дачцэ купца родам з Даўгінава:*

*– Купчышачка,*
*адкуль родам?*
*– А я родам з Даўгінава;*
*– А я родам з Даўгінава;*
*– Я дачушка ўдавіная.*

## Паход Напалеона на Маскву

*“У 1812 годзе праз землі Вілейскага павета праходзіў паход Напалеона на Маскву. У выніку заняцця Вілейкі французскія войскі здабылі вялікія запасы мукі, каля 30000 порцый сухароў і запасы аўса для коней. У горадзе і павеце французы ўводзілі свае законы. 3 і 4 снежня таго ж года частка французскага войска адступала праз Вілейку ў накірунку Смаргоні. Адна з калон цягнулася праз Докшыцы і Даўгінава. 20 лістапада расійскія войскі дагналі яе пад Даўгінавам і разбілі. Целы забітых пахавалі ў брацкай магіле і насыпалі над ёй узгорак. З часам паставілі пры тым узгорку каменны крыж. А яшчэ пазней – капліцу. Гэта была праява вядомай сімпатыі палякаў да Напалеона і яго войска. Тыя палякі, якія прынялі бок французаў, падлягалі пазней пераследу. Напрыклад, Ян Ходзька, але адносна нядоўга, пакуль царскі ўрад выдаў амністыю. У Даўгінаве памяць аб знаходжанні французскіх войскаў пратрывала да міжваеннага перыяду, з праявай культу Напалеона ў некаторых даўгінаўцаў сутыкаліся яшчэ на пачатку XX стагоддзя.*

## Удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў

*“Вілейскі павет удзельнічаў у лістападаўскім паўстанні. У Вілейцы знаходзіўся расійскі гарнізон: складала яго казацкая адзінка. Горад дастаўся ў рукі паўстанцаў 14 красавіка 1831 года. Усюды гучалі народныя песні. Стварыўся Павятовы Кіраўнічы Камітэт, які прызначыў цывільна-вайсковых тэрытарыяльных камендантаў. Камендантам у Даўгінава прызначылі **Пятра Солтана**. Яго намеснікам таксама быў Юзаф Солтан (аднак яны чыннага ўдзелу ў паўстанні не ўзялі). У Будславе камендантам быў прызначаны **Ян Каверскі**. Вілейскі камітэт выдаў акт канфедэрацыі, які разаслалі для чытання з амбону. Ксяндзы бралі ў касцёле прысягу ад насельніцтва на вернасць паўстанню.*

*…Аднак у ноч з 23 на 24 красавіка расійскае войска выцiснула паўстанцаў з Вілейкі. Праўда, 4 мая ўдалося ім адбіць горад, але ў той самы дзень вымушаны былі яго пакінуць. 10 мая паўстанцкія атрады адступілі з Вілейскага павета ў суседні Дзісненскі павет. Усюды ў мястэчках сталі царскія войскі. У палове ліпеня ў Даўгінаве сталі тры рэзервовыя батальёны (1200 чалавек), чатыры конныя эскадроны і тры аддзелы. Удзельнікаў паўстання хапалі і судзілі. Знаходзіўся сярод іх таксама **Фелікс Ходзька**, уладар маёнтка Крывічы, які быў паўстанцкім афіцэрам, а таксама яго брат **Станіслаў Ходзька**. Трэці брат, **Міхал Ходзька (1808 – 1879)**, філарэт, капітан, браў удзел у здабыванні Вілейкі, пасля паразы паўстання перайшоў у Прусію і рэшту жыцця пражыў у Францыі (быў сябрам Міцкевіча).*

## “Доўгі час у Куранцы было менш махлярства і ашуканства”

У кнізе Францішак Сяліцкі прыводзіць шматлікія вытрымкі з нататкаў Ходзькаў і Кастравіцкага, Кіркора, Тышкевіча пра наш рэгіён.

*“У 1854 годзе вядомы віленскі журналіст **Адам Ганоры Кіркор (1819 – 1886)** здзейсніў краязнаўча-фальклорнае падарожжа па Вілейскім павеце і апісаў яго ў “Бібліятэцы Варшаўскай” (1855).*

*Аўтар узгадаў адно такое паданне: падчас яўрэйскага свята “Вялікія басіны” д’ябал налавіў мноства яўрэяў у вялікі мяшок і кінуў у Вілію; і з той пары “ доўгі час у Куранцы было менш махлярства і ашуканства”. Вера ў тое, што ў гэта яўрэйскае свята д’ябал схапіў яўрэяў, пратрывала аж да міжваеннага перыяду. У Даўгінаве гэта свята называлася “хаптус” (ад беларускага слова “хапаць”).*

*… Кіркор далучыў легенду аб шаўцу, якіператварыўся ў камень за тое, што на Вялікдзень шыў боты. Апісаў мясцовасці каля Куранца з археалагічнага погляду. Між іншым узгадваў аб Рэчках, Касцяневічах, а таксама Даўгінаве і Мікуліне, апавядаючы пра паданне, звязанае з мікулінскім возерам:*

*“Падобнае возера (як у Рэчках) з чыстай вадой, якая ніколі не зарастала, знаходзіцца пры дарозе, што вядзе з Даўгінава да фальварка Мікулін. Яго глыбіня, паводле людскіх гаворак, мае быць такой вялікай, што найдаўжэйшыя шнуры з каменем не могуць дастаць дна і часам толькі ўдараецца камень аб нешта цвёрдае і тоне зноў глыбей. Паданне хоча там мець касцёл, які праваліўся таксама (як і ў Рэчках паданне аб царкве, якая праваліласа ў возера), а камень, які ўдараецца аб нешта цвёрдае, уласна трапляў на вежы. Прычына ж таго архітэгічнага здарэння затанула ў хвалі забыцця”.*

*Гэта паданне Кіркор праўдападобна запісаў не з вуснаў мікулінскіх жыхароў, а возера не бачыў, паколькі яно аддалена каля 2 км ад фальварка Мікулін (ад вёскі Мікуліна каля кіламетра).*

**Пераклад Міхала ГІЛЯ.**

● **КАЛЯНДАР**

**4 лютага.** 80 гадоў з дня нараджэння Арсеня Ліса (1934), беларускага фалькларыста, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук (1997), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзіўся ў вёсцы Вётхава, цяпер Смаргонскі раён. Аўтар даследаванняў па гісторыі культуры, жанрах беларускага фальклору, фалькларыстыкі.

***

**1746 год**. Нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка, вядомы ваенны і палітычны дзеяч.

***

**8 лютага.** 100 гадоў з дня нараджэння Валянціна Таўлая (1914 – 1947), беларускага паэта, літаратуразнаўца, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

***

**11 лютага.** Нарадзіўся Напалеон Орда (1807 – 1883), беларускі мастак, кампазітар, піяніст. Атрымаў вядомасць стварэннем серый архітэктурна-гістарычных пейзажаў, якія зафіксавалі былую славу, веліч і культуру беларускага, літоўскага, польскага і ўкраінскага народаў. Да нашых дзён дайшло 1060 малюнкаў мастака, якія пераважна захоўваюцца ў музеях Польшчы і Украіны. У Беларусі зрабіў каля 200 замалёвак. Сярод мастакоўскіх прац ёсць “Валожынскі палац”, “Крэўскі замак”, “Гродна”. Адна з работ мастака, выява Нясвіжскага замка Радзівілаў, адлюстравана на беларускай банкноце ў 100 000 рублёў. Як кампазітар стварыў больш за 20 паланэзаў, мазурак, вальсаў, накцюрнаў, полек, сэрэнад, а таксама рамансаў і песень на словы Адама Плуга. Яго творы гучалі са сцен Францыі, Германіі, Польшчы, Расіі. Адзін сезон (1847) з’яўляўся дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы. Творчым і жыццёвым крэда мастака былі словы: “Хто хоць жменькай зямлю носіць, той зможа насыпаць гару”.

***

**12 лютага.** 100 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Бакланава (1914 – 1990), заслужанага архітэктара Беларусі. З 1944 працаваў у інстытуце Белдзяржпраект. Асноўныя працы: Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР, архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, Дзяржаўны мастацкі музей БССР, навучальныя карпусы Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі, медыцынскага інстытута, комплекс дома адпачынку “Сосны” на возеры Нарач.

***

**13 лютага.** 40 гадоў таму (1974) памерла Паўліна Мядзёлка, дзяячка беларускай культуры.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● КОНКУРСЫ

# Школьнікі вандруюць па кніжным свеце




Фота Наталлі ТУР.

Над кнігай часам даводзіцца і падумаць.

**МАЛАДЗЕЧНА. Пяць гарадскіх школ выйшлі ў фінал праекта "Па кніжным свеце", які адбыўся чацвертага лютага ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.**

У гульні-віктарыне ўдзельнічалі каманды з пяці навучальных устаноў горада: СШ №№5, 7, 9, 12 і гімназіі-каледжа.

Дзевяцікласнікам давялося спаборнічаць у розных конкурсах, шукаць адказы на пытанні, прыгадваць свае веды не толькі са школьнай праграмы па літаратуры, але і ўспамінаць казкі і песні.

Гульня распачалася конкурсам капітанаў, дзе ім давялося ўспамінаць персанажаў казак. І, як адзначыла потым член журы **Тамара Дудзіч**, галоўны спецыяліст аддзела ідэалогіі і культуры Маладзечанскага райвыканкама, яе вельмі здзівіла тое, што дзеці не змаглі ўспомніць героя твора, які прадаваў п'яўкі.

На жаль, у заданнях вядучых не было ніводнага персанажа з беларускіх казак. Ды і само мерапрыемства праходзіла на рускай мове, а шыльда з яго назвай была на беларускай.

Самым відовішчным быў конкурс, які рыхтавалі ўдзельнікі загадзя. У ім трэба было ў тэатральнай форме прадставіць персанажа з казкі або літаратурнага твора, а ўсім астатнім удзельнікам запісаць, што гэта за персанаж і адкуль ён.

Удзельнікі прадстаўлялі персанажаў з мультфільма "Лятучы карабель", Мэры Попінс, Свінапаса з казкі Ганса Хрысціяна Андэрсэна, Мітрафанушку з "Недалеткі". І толькі каманда з гімназіі №7 успомніла пра цудоўнага персанажа з беларускага твора – Паўлінку.

– Чыя была ідэя прадставіць на гэтым конкурсе вобраз Паўлінкі? – пытаюся ў выканаўцы ролі, вучаніцы дзявятага класа **Вікторыі Шыбекі.**

– Я адразу, калі пачула заданне пра персанаж, прапанавала сваёй камандзе менавіта Паўлінку, яны пагадзіліся. Я вельмі захапляюся беларускай літаратурай, добра яе ведаю.

Калі праходзіла ўзнагароджванне пераможцаў, Вікторыя атрымала прыз – набор паштовак з відамі Маладзечна. Старшыня журы Тамара Дудзіч, калі ўручала Вікторыі паштоўкі, сказала, што моцна ўразіла тое, як валодае роднай мовай Вікторыя, і што само выкананне, якое не сорамна параўнаць з прафесійным, прыйшлося ёй да сэрца.

**По інфармацыі Еўрарадыё, у 2013 годзе дзяржаўныя выдавецтвы выпусцілі толькі два працэнты кніг на беларускай мове.**

У астатніх конкурсах заданні былі разнастайныя і прымушалі падумаць над адказамі. У музычным конкурсе трэба было здагадацца, з якога твора гучыць музычны фрагмент, што выконвалі дзяўчаты з Маладзечанскай школы мастацтваў, і зрабіць у кнізе пэўную закладку. У паэтычным конкурсе трэба было закончыць чатырохрадкоўе. Тут, на шчасце, знайшлося месца беларускім аўтарам, і ўдзельнікі ўспомнілі радкі пра родны кут і слуцкіх ткачых.

Не абышлося на конкурсе і без смешных кур'ёзаў. Калі гледачы ў зале пачалі занадта моцна крычаць і нешта абмяркоўваць, хтосьці з членаў журы заўважыў: "Гэта вам не ўрокі, тут трэба паводзіць сябе ціха!"

У апошнім конкурсе, дзе ўдзельнікам прапанавалі выбраць прадмет і інсцэніраваць фрагмент казкі, дзе ён згадваецца. Сярод прадметаў былі люстэрка, яблык, залатая рыбка з невадам, насоўка. Каманда, якой дасталася насоўка, інсцэніравала не царэўну-несмяяну, а трагедыю Шэкспіра, калі раўнівы маўр Атэла душыць гэтай самай насоўкай сваю нявінную Дэздэмону. Адзінае радуе, што моладзь у нас начытаная.

Месцы па выніках конкурсу размеркаваліся наступным чынам: пятае месца заняла школа № 5, чацвертае – гімназія-каледж, прызавое, трэцяе, месца дасталася школе №12, другое месца – школе №9 і пераможцамі гульні і ўладальнікамі вялікага святочнага торта ў форме кнігі сталі навучэнцы гімназіі №7.

– Гэтым праектам мы хацелі прыцягнуць увагу вучняў да чытання, – гаворыць супрацоўніца бібліятэкі **Раіса Давідовіч**. – Мяркуючы па тым, што ўжо фінал мерапрыемства, да гэтага былі адборачныя туры, цікавасць у дзяцей ёсць. Яны прыходзяць у школу, расказваюць пра конкурс аднакласнікам. У канцы лютага ў нашай бібліятэцы будзе ладзіцца конкурс "Чытач года". Спадзяёмся, што колькасць удзельнікаў будзе толькі павялічвацца.

**Наталля ТУР.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці ведаеце вы беларускія казкі?

**Ксенія Кадушкевіч, вучаніца 9 класа:**



– Так, калі была маленькая, то чытала казкі. Памятаю казку пра залатую яблыньку. Цяпер беларускія кнігі чытаю толькі на ўроках беларускай літаратуры.

**Віталь Кірзяёнак, вучань 10 класа:**



– Ведаю адну, называецца "Лісіца-хітрыца". А так успамінаюцца толькі рускія. У дзяцінстве мне чыталі іх. Я нават у кніжных крамах не звяртаю ўвагі на тое, ёсць там беларускія кнігі ці не.

**Вікторыя Шыбека, вучаніца 9 класа:**



– Ведаю. Мой бацька мне ў дзяцінстве шмат беларускіх казак чытаў. І пра сінюю світку, і пра сцізорык, і пра Сцёпку, які да пана хадзіў. Цяпер казак ужо не чытаю, але захапляюся беларускай гістарычнай прозай. Нядаўна скончыла чытаць "След ваўкалака". Цудоўны твор!

**Ягор Шпалаў, вучань 9 класа:**



– Не, я не ведаю беларускіх казак. Ды і ўвогуле кніжак не чытаю. Я больш па дакладных навуках. Дарэчы, можаце запісаць, што я выдатны музыкант. Цяпер рыхтую сваю праграму на гітары да свята Восьмага сакавіка.

**Дзіна Альшэўская, бармен:**



– У мяне дачка-школьніца, таму чытаем з ёй усё, што трэба па школьнай праграме па беларускай літаратуры. Не памятаю, каб я ёй чытала ў дзяцінстве беларускія казкі.

**Ганна Сарока, у дэкрэтным адпачынку:**



– Бывае, чытаю. З кнігі свайго дзяцінства: "Людзей слухай, а свой розум май". А калі казаць праўду, то часцей спяваю дзецям беларускія калыханкі. Ну, напрыклад: "Люлі-люлі, прыляцелі гулі, селі на балота ў чырвоных ботах..." А, яшчэ і пацешкі "Закалола бабка свінку, усім дала паназе, а сама хвасток грызе".

**Кацярына Жалава, доктар:**



– У дзяцінстве, напэўна, чытала. Але ніводнай назвы цяпер успомніць не магу. Цяпер, у сілу прафесіі, чытаю толькі спецыялізаваную літаратуру. Апошняе, што чытала з мастацкай літаратуры, былі "Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

 



# Месяцавы каляндар

## садавода і агародніка на 2014 год

## Другое паўгоддзе



**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2014 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

### Ліпень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Сяўба кустоў і дрэў, збор і сушка садавіны і караняплодаў. Варта правесці касьбу дзеля запавольвання росту травы. Спрыяльны час для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 2, 3 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, садзіць на насенне.** Добра прымуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для пладанашэння, у прыватнасці бружмель, шыпшыннік. З кветак рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба замарудзіць рост травы |
| 4-6 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 7 | Пасадка большасці караняплодаў: радыскі, рэдзькі, буракоў, морквы. Нарыхтоўка лекавых траў патрабуе асабліва эфектыўнай сушкі. У гэтыя дні збіраюць усё, што не падлягае працягламу захоўванню |
| 8, 9 | Пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелю, сліў. Збор гародніны, садавіны, ягад і насення. Сушка агародніны і грыбоў |
| 9-11 | Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. З зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |
| 12, 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рабіце апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, прышчыкванне |
| 14-16 | Рэкамендуюцца пасадкі цыбульных, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Нарыхтоўка варэння і саленняў. Культывацыя, паліў і ўнясенне ўгнаенняў |
| 17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Збор караняплодаў, садавіны, ягад, лекаў, сушка гародніны і садавіны |
| 18, 19 | Пасадка ўсіх клубневых і цыбульных культур. Абрэзка дрэў і кустоў. Збор садавіны, ягад і гародніны, грыбоў |
| 19-21 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 22, 23 | Пасадка караняплодаў. Нарыхтоўка лекавых траў патрабуе асабліва эфектыўнай сушкі. Атрымоўваюцца ў гэты час кансервы і саленні |
| 24-26 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Збор і сушка садавіны і караняплодаў, касьба з мэтай запаволення росту траў. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў да пасадак, для абрэзкі дрэў, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур** |
| 29, 30 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, садзіць на насенне.** Добра прымуцца бружмель, шыпшыннік. З кветак рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба замарудзіць рост травы |
| 31 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў |

### Жнівень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў |
| 3, 4 | Пасадка большасці культур. **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 5, 6 | Пасадка зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, клубніц. Збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Выдатная пара для сушкі агародніны і грыбоў |
| 7, 8 | Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. З зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |
| 9, 10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Збор збожжавых і караняплодаў, касьба, апырскванне курванне, абрэзка |
| 11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 12 | Нарыхтоўка насення. Нарыхтоўка варэння і саленняў. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 13, 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Збор ўраджаю караняплодаў, бульбы, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 15-17 | Пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, зънятыя ў гэты час, грыбы прыдатныя для запасаў |
| 18, 19 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 20-22 | Нарыхтоўка зеляніны і лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі. У гэтыя дні збіраюць усё, што не падлягае працягламу захоўванню |
| 23, 24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Збор і сушка садавіны і караняплодаў, асабліва ўборка бульбы. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку |
| 25 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Час выкопваць цыбуліны нарцысаў і цюльпанаў. Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў |
| 26 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне |
| 27-29 | Закладка клубняў і насення на захоўванне. Пасадка костачкавых фруктовых дрэў. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 30, 31 | Пасадка большасці культур. **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |

### Верасень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1, 2 | Збор гародніны, бульбы, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Выдатная пара для сушкі агародніны і грыбоў. Пасаджаныя ў гэты дзень пакаёвыя кветкі хутчэй расцвітаюць |
| 3, 4 | Пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і калючых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў. З зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |
| 5, 6 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Можна нарыхтоўваць насенне, зразаць кветкі ў букеты, падстрыгаць дрэвы і кусты |
| 7, 8 | Можна нарыхтоўваць насенне, зразаць кветкі ў букеты. Нарыхтоўка варэння і саленняў. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 9 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. |
| 10, 11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 12, 13 | Пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, зънятыя ў гэты час, а таксама грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 14, 15 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 16-18 | Нарыхтоўка зеляніны і лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі. У гэтыя дні збіраюць усё, што не падлягае працягламу захоўванню. Атрымоўваюцца ў гэты час кансервы і саленні |
| 19, 20 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуюцца збор і сушка садавіны і караняплодаў, асабліва ўборка бульбы. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 21-23 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуюцца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў |
| 24 | Рэкамендуецца закладка клубняў і насення на захоўванне |
| 25 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне |
| 26, 27 | **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 28, 29 | Рэкамендуецца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Выдатная пара для сушкі агародніны і грыбоў. Пасаджаныя ў гэты дзень пакаёвыя кветкі хутчэй расцвітаюць |
| 30 | Пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і калючых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. З зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |

### Кастрычнік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і калючых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. З зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |
| 2-4 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Апырскванне саду ад шкоднікаў, што зімуюць на раслінах |
| 5, 6 | Апырскванне саду ад шкоднікаў, што зімуюць на раслінах, і ўцяпленне ягадных кустоў |
| 7, 8 | Барацьба з хваробамі і шкоднікамі, прасушванне, праветрыванне |
| 9 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 10 | Пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Грыбы, сабраныя ў гэты час, прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 11-13 | Рэкамендуецца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Удалы час для ўкрыцця шматгадовых раслін на зіму |
| 14, 15 | **Рэкамендуюцца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Абрэзка не рэкамендуецца** |
| 16-18 | **Рэкамендуецца культывацыя глебы. Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка раслін** |
| 19-20 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 21, 22 | Навядзенне парадку на ўчастку |
| 23 | Абрэзка кустоў і дрэў |
| 24-27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 28, 29 | Нарыхтоўка чаранкоў для вясновай пасадкі |
| 30, 31 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Акучванне градак са шматгадовымі раслінамі |

### Лістапад

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1, 2 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 3, 4 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 5, 6 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 8, 9 | Рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 10-12 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 13, 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 15-17 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 18, 19 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы |
| 20, 21 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 22 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў |
| 23 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 24, 25 | Пасадкі на насенне. Рыхленне глебы |
| 26, 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 28, 29 | Сяўба ліставой гародніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 30 | Сяўба зеляніны ў доме або ў зімовай цяпліцы |

### Снежань

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 2-4 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 5, 6 | Рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 8 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін |
| 9-11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 12-14 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы |
| 15, 16 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |
| 17, 18 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 19, 20 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 21 | Рэкамендуюцца пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 22-24 | Рэкамендуюцца пасеў і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў |
| 25, 26 | Пасеў зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы |
| 26, 27 | Пасеў і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 28-30 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 31 | **Не рэкамендуюцца пасевы і перасадкі** |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**



 

ФУТБОЛ

# Ігар Шабан: "Вілія" працягне гуляць у чэмпіянаце вобласці. 100%"




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ігар Шабан.

**ВІЛЕЙКА. Па якой прычыне ў мінулым сезоне "Вілія" фінішавала апошняй у першай лізе чэмпіянату вобласці па футболе? Дзе яна працягне гуляць?**

Пра гэта даведаемся з размовы са старшынёй Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігарам Шабаном.**

**– Як бы вы ацанілі мінулы год для вілейскага футбола?**

– У цэлым, ён быў не вельмі ўдалы. Бо ў першай лізе чэмпіянату Мінскай вобласці "Вілія" заняла апошняе месца (праўда, адна каманда знялася, так былі б перадапошнімі). А ў сезоне 2012 года былі ж пятымі.

**– На ваш погляд, якая прычына няўдачы?**

– Галоўная прычына тая, што хлопцы гуляюць самі па сябе. Цалкам адсутнічае фінансаванне. Улада часткова дапамагае транспартам, як і некалькі нашых прадпрыемстваў. А бывае, транспарт ёсць, а няма паліва – і капітан каманды вымушаны шукаць па знаёмых, як яго заправіць. І такая сітуацыя ўжо некалькі год.

Калі ў мінулыя гады хлопцам, можа, хацелася самім штосьці даказаць, то з кожным годам энтузіязму ўсё менш. Адсюль і склад каманды такі: гуляюць усе, хто паехаў – бывае, без замен, бывае, другі варатар выходзіць у поле. А калі няма нармальнага складу, адпаведныя і вынікі. "Вілія" летась стала адзінай камандай у чэмпіянаце, якая ніводнага ачка не атрымала на выездзе.

І нікому нічога не скажаш. Сёння гулец хоча ехаць, заўтра – не хоча. І паўплываць немагчыма, бо ўявіце: у аддаленыя гарады ты ў дзевяць гадзін раніцы выехаў, у дзевяць вечара вярнуўся, і яшчэ харчуешся за свае грошы. І так з мая па лістапад. Можна толькі "дзякуй" сказаць, што хлопцы дагулялі да канца, каманда не знялася са спаборніцтваў.

Год і два таму тэлефанаваў у іншыя каманды вобласці, пытаўся, як у іх з харчаваннем, з формай, даплатамі. На той момант практычна ўсе, хай з затрымкамі, але грошы на харчаванне атрымлівалі. "Вілія" была адзінай камандай, якая іх не мела.

Што яшчэ да прычын няўдалага выступлення... Не было стабільнасці ў варотах. Калі не памыляюся, пяць чалавек варатарамі былі за сезон, нават адзін палявы гулец пару разоў па тайме вароты абараняў.

Ну і крыху не шанцавала ў некаторых гульнях. Выйграй адну гульню ў канкурэнтаў – маглі быць і 10-мі, 11-мі.

**– "Вілія" апусцілася ў другую лігу чэмпіянату Мінскай вобласці. Там жа гуляць будзе?**

– Там будзем гуляць стопрацэнтова – хай нават і такія ўмовы застануцца. Бо ў другой лізе ўсяго сем камандаў, шэсць выездаў. А магчыма, нейкія змены будуць у правядзенні чэмпіянату: дзве лігі аб'яднаюць і падзеляць па тэрытарыяльным прынцыпе.

Па-любому гуляць трэба. Бо тады няма сэнсу трымаць гарадскі стадыён. І калі пару год не пагуляеш на прыстойным узроўні, то потым вельмі цяжка пачынаць.

**– Як сезон для вілейскіх аматараў футбола складваецца?**

– Звычайна пачынаем турнірам па міні-футболе на сінтэтычнай пляцоўцы ў першай школе ў красавіку-маі. Камандаў 16-18 збіраецца. Практычна адначасова гуляем Кубак Вілейскага раёна па футболе на пляцоўках каледжа: для таго, каб гульцы падрыхтаваліся да першынства вобласці. Летась удзельнічала восем камандаў.

Потым з мая "Вілія" пачынае гульні ў чэмпіянаце вобласці. З пачатку ліпеня ў нас першынство раёна па футболе. Касцяк камандаў ёсць – шэсць, адна-дзве, бывае, дабаўляюцца. Працягваецца чэмпіянат да канца кастрычніка. А завяршаем сезон ў зале каляндным турнірам па міні-футболе. Ужо у 20-ы раз яго праводзілі.

**– У гэты графік збіраецеся штосьці дадаваць?**

– Магчыма, у гэтым годзе збяром некалькі камандаў, прыедзем у Мядзельскі фізкультурна-аздараўленчы цэнтр і згуляем за два дні турнір. Даехаць недалёка, зала вялікая. Бо дасягненню вынікаў у міні-футболе на абласным узроўні перашкаджае тое, што няма ў Вілейцы фізкультурна-аздараўленчага комплексу з вялікай залай – гуляем у маленькай.

**– У лідарах у вілейскім футболе адны і тыя ж каманды?**

– Як правіла, так. У нас "Буддэталі" з "Першым Беларускім" змагаюцца за прызавыя месцы. Адноснай нечаканасцю стала чацвертае месца "Шылавічаў" у каляндным турніры па міні-футболе. А выйграў турнір "Юнiёр" – тут таксама нічога дзіўнага. Усе гульцы, апроч варатара, са зборнай горада: ці раней гулялі, ці цяпер. Яны ўсё жыццё ў гэтай маленькай зале трэніраваліся, і навыкі ім дапамагаюць.

**– Ці дабаўляецца моладзь у каманды?**

– Пакрысе прыцягваем у раённыя каманды. Але на абласны ўзровень яны пакуль не цягнуць. Толькі крыху на замену **Сяргей Яноўскі** выходзіў. Сярод моладзі ёсць такія, хто гуляе, здаецца, няблага. Але ў іх потым, можа, жаданне знікае, ці чым іншым цікавяцца.

**– Ці прыходзяць гледачы на матчы "Віліі"?**

– На здзіўленне, летась у нас было больш гледачоў, чым у 2012 годзе. Фанацкая група з'явілася, падлеткаў 15-20, крычалкі прыдумалі.

Асобна пра гарадскі стадыён трэба сказаць. Ён у нас адзін з горшых у вобласці. Няма часткі трыбун. У невялікім будынку, дзе раздзявальні, няма даху, усе цячэ. Ужо другі праект рэканструкцыі стадыёна гатовы. Але ці будуць на гэта сродкі, невядома, бо патрабуецца больш за 20 мільярдаў рублёў. Баюся, што яшчэ не адзін год будзем праводзіць футбольныя матчы ў такіх умовах.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail: alvy@tut.by

МНАГАБОРСТВА

# Спаборнічалі будучыя абаронцы Айчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінальныя спаборніцтвы па зімовым мнагаборстве "Абаронца Айчыны" сярод юнакоў дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту праведзеныя на базах лёгкаатлетычнага манежу і фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі ў канцы студзеня.**

Праграма спаборніцтваў складалася з кулявой стральбы, падцягвання на перакладзіне і лыжных гонак. Гэтыя віды мнагаборства як нельга лепш адлюстроўваюць падрыхтоўку юнакоў да службы ў радах Узброеных сіл і іншых войскаў Рэспублікі Беларусь, бо менавіта з такой мэтай праводзяцца спаборніцтвы.

За перамогу змагаліся дзесяць камандаў раённых раёнаў Мінскай вобласці. Каманда гаспадароў з Маладзечанскага раёна заняла другое месца, саступіўшы ўсяго тры ачкі прадстаўнікам Капыльскага раёна.

У асабовым заліку ў сваіх узроставых групах (іх было дзве: 15-16 гадоў і 17-18 гадоў) маладзечанцы выйгралі некаторыя дысцыпліны. Вучань СШ №14 **Уладзіслаў Голубеў** (трэнер **Уладзімір Лашук**) вызначыўся ў стральбе. Вучань СШ №1 **Аляксандр Строк** (трэнер **Леанід Лісота**) усталяваў рэкорд у падцягванні – 34 разы. Абодва пераможцы запрошаныя ў склад абласной каманды для ўдзелу ў рэспубліканскай спартакіядзе.

**Міхаіл ВІШНЕЎСКІ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

НАВІНЫ

## Матч з Дзмітрыем Панковым

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейскай школе-інтэрнаце для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы 29 студзеня адбыўся таварыскі хакейны матч. На лядовай пляцоўцы сустрэліся старшакласнікі інтэрната з камандай, у якую ўваходзілі супрацоўнікі абласнога ДАІ і ўдзельнік алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк Сіці і дзевяці чэмпіянатаў свету па хакеі **Дзмітры Панкоў**.



Фота news.21.by.

Дзмітры Панкоў.

Перад гэтым праходзілі прафілактычныя мерапрыемствы, дэманстраваліся спецсродкі, якія знаходзяцца на ўзбраенні міліцыі, паведамляе ўпраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканама.

Госці ўручылі ў падарунак школе-інтэрнату спартыўны інвентар: лыжы, чаравікі, канькі, пальчаткі ды іншае.

**Аддзел інфармацыі.**

## 5:0 – самы папулярны лік

**МЯДЗЕЛ.** Гульні чэмпіянату раёна па міні-футболе адбыліся 28 студзеня і 1 лютага.

У аўторак прайшлі толькі два матчы. Каманда райваенкамата была мацнейшай за прадстаўнікоў ЖКГ 5:0, з такім жа лікам гульцы з Пастаў перамаглі супрацоўнікаў раййаддзела на надзвычайных сітуацыях.

У суботу каманда індывідуальных прадпрымальнікаў абыграла "Юніёр" 6:2, "Зубраня" – Крывіцкі савет 5:0. Каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму разграміла футбалістаў прадпрыемства меліярацыйных сістэм 14:2. СДЮШАР саступіла РАУС з лікам 1:2.

## Срэбра і бронза і ў мядзельскіх лыжнікаў

**МЯДЗЕЛ.** У Капылі 29 і 30 студзеня адбыліся абласныя спаборніцтвы па лыжных гонках у межах Алімпійскіх дзён моладзі.

Прадстаўнікі Мядзельскай СДЮШАР занялі агульнакамандное чацвертае месца, паведаміла намеснік дырэктара школы **Наталля Уцюгова**.

Найлепш сярод землякоў выступілі **Вадзім Садоўскі** і **Анастасія Хацяновіч.**

Анастасія заняла трэцяе месца на дыстанцыі тры кіламетры вольным стылем, а Вадзім быў другім.

## Ідуць людзі на каток

**МЯДЗЕЛ.** Карыстаецца папулярнасцю ў мядзяльчан каток, які залілі паміж гарадскім стадыёнам і фізкультурна-аздараўленчым цэнтрам. Пра гэта сведчыць статыстыка, якую прывёў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**:

– Толькі ў нядзелю 69 чалавек бралі напракат канькі. Трэба ўлічыць, што некаторыя ж яшчэ прыходзілі катацца са сваімі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ТЭАТР

# “Нязваны госць” завітае ў Вілейку

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА. 25 лютага Мінскі абласны драматычны тэатр наведае з гастролямі сваіх добрых суседзяў, вілейчан, і дасць для іх два спектаклі на сцэне Палаца культуры.**

У 14 гадзін пачнецца дзіцячы спектакль “Казка пра чырвоную стужачку” аб прыгодах хлопца Івана па мянушцы Прастата́, які пайшоў па свеце набірацца розуму, а знайшоў не толькі розум, але і верных казачных сяброў. Спектакль ідзе на рускай мове.

У той жа дзень а 18 гадзіне дарослыя стануць сведкамі амаль дэтэктыўнай гісторыі ў прэм’ерным спектаклі камедыйнага жанру “Нязваны госць”. Дакладней, гэта гісторыя пра нечаканую сустрэчу: з суседняга балкона ў кватэру, дзе знаходзіцца гераіня, пранікае мінімальна апрануты невядомы мужчына. Ён тлумачыць, што ратуецца ад мужа сваёй палюбоўніцы...

Ролі ў спектаклі бліскуча выконваюць вядучыя артысты **Людміла Рошчына** і **Андрыян Барткевіч**.

### Прывязуць спектаклі ў Чысць

А трошкі раней, 15 лютага, артысты Мінскага абласнога драмтэатра прыедуць у пасёлак Чысць і на сцэне мясцовага Дома культуры дадуць таксама два спектаклі.

Апоўдні юным гледачам пакажуць вясёлую “Казку пра чырвоную стужачку” аб прыгодах Івана па мянушцы Прастата́.

У 18 гадзін дарослыя паглядзяць незабыўную гісторыю, што адбылася з героямі народнай камедыі “На другі дзень Сёмухі”, пастаўленай паводле матываў знакамітых “Прымакоў” Янкі Купалы.

**Аляксандр ПЫЦЬКО, кіраўнік літаратурнай часткі тэатра.**


Фота theatre.modt.iatp.by

Сцэна са спектакля “На другі дзень сёмухі”.

● РЭПЕРТУАР

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**“Новы калабок”**, П.Васючэнка
26 студзеня – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Дапаможам дзецям з анкалогіяй

**МАЛАДЗЕЧНА.** 14 лютага ў Палацы культуры адбудзецца дабрачынны канцэрт, накіраваны на збор сродкаў для дзяцей, хворых на анкалогію. Удзел у канцэрце прымуць зоркі беларускай эстрады.

Пачатак у 19:00. Тэлефон для даведак **8(0176) 75-27-84.**

**Аддзел інфармацыі.**

■ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Ці чыстую ваду вы п'яце?

| | |
|---|---|
| 35% | Для гэтага прапускаю праз фільтр |
| 23% | Вядома, я п'ю з калодзежа ці водаправода |
| 15% | Чалавецтва ўжо так планету засмеціла, што чыстая вада хіба з леднікоў атрымаецца |
| 12% | Кіпячу, каб была чыстая |
| 8% | Брудны посуд бывае, вада заўсёды чыстая |
| 8% | Калі бутыляваную, то так |

Усяго галасоў 26

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 8 | | | | |
| 2 | | 9 | | | 5 | | 7 | 1 |
| | | 1 | 4 | 7 | | 9 | 6 | |
| 7 | | | | | | 1 | 2 | |
| | 1 | | | | | | 5 | |
| | 2 | 8 | | | | | | 7 |
| | 6 | 7 | | 4 | 3 | 5 | | |
| 3 | 8 | | 5 | | | 6 | | 9 |
| | | | | 6 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік **“Я, Франкенштэйн”**, 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
7 лютага – у 21:00
8 лютага – у 19:00, 21:00
9 лютага – у 19:00
10 лютага – у 21:00
11 лютага – у 19:00
12 лютага – у 21:00
13 лютага – у 19:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Спартыўная драма **“Чэмпіёны”**, 2D (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
7 лютага – у 19:00
8, 9 лютага – у 17:00
10 лютага – у 19:00
12 лютага – у 19:00
13 лютага – у 17:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Экшн, прыгоды **“Геракл: Пачатак легенды”**, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
7 лютага – у 16:30
9 лютага – у 21:00
11 лютага – у 21:00
12 лютага – у 17:00
13 лютага – у 21:00
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **“Тарзан”**, 3D (Германія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
8 лютага – у 15:00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды “Іван Царэвіч і Шэры Воўк”, 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9 лютага – у 15:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **“Белка і Стрэлка: Падарожжы па Месяцы”**, 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 лютага – у 13:00
Кошт білета – 20 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **“Вязуха! Выпуск 3”** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 лютага – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя **“Дзяўчына з Манака”** (Францыя, фільм дазволены гледачам, якім за 16 год)
7 лютага – у 17:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма **“Спадчыннікі”** (Расія, фільм дазволены гледачам, якім за 16 год)
7, 8 лютага – у 19:30, 21:30
9 лютага – у 17:30
10 лютага – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама **“Пяшчота”** (Францыя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
8 лютага – у 17:30
9 лютага – у 19:30, 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер **“Адлюстраванне”** (Францыя, фільм дазволены гледачам, якім за 16 год)
11, 12 лютага – у 19:30
13 лютага – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік **“Нястрымны”** (ЗША, фільм дазволены гледачам, якім за 16 год)
11, 12 лютага – у 21:30
13 лютага – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на люты

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Всё будет хороШОУ!”** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), Алег Чэчанеў
7, пятніца, у 11:30

**“Парася, якое спявае, або Нам нельга без сябра”** (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), Сяргей Казлоў
26, серада, у 11:00

**“Залатое сэрцайка”** (спектакль-гульня па матывах казак Арлова), Святлана Навуменка
28, пятніца, у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Камедыя”** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
8, субота, у 17:00

**“Старая Зайчыха”** (меладрама), Мікалай Каляда
11, аўторак, у 19:00

**“Сямейны партрэт з пабочнай асобай”** (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
13, чацвер, у 19:00

**“Банкет”** (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
14, пятніца, у 19:00

### Спектакль народнага тэатра “Метамарфозы”

**“Тая, што стварыла цуд”**, пастаноўка Андрыяна Барткевіча, Уільям Гібсан
16, нядзеля, у 17:00

**“На другі дзень Сёмухі”** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове “Прымакоў” Янкі Купалы), Юры Вута
18, аўторак, у 19:00

**“Шукаю сапраўднага мужчыну”** (камедыя ў 2-х дзеях), Алена Папова
20, чацвер, у 19:00

**“Вечар” (лірычная меладрама),** Аляксей Дудараў
21, пятніца, у 19:00

**“Псіхааналітык для псіхааналітыка”** (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), Дыяна Балыка
22, субота, у 17:00

**ПРЭМ’ЕРА. “Нязваны госць” (ну, ве-е-е-льмі сур’ёзная камедыя),** Святлана Бартохава
28, пятніца, у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

● ГАРАСКОП (7-13 ЛЮТАГА)


**Авен.** Не думайце пра людзей дрэнна, шукайце ў кожным станоўчыя бакі, недахопы ігнаруйце. Цярпенне і добразычлівасць, хоць і не проста іх праяўляць, акупяцца сто разоў.


**Цялец.** Выхадныя прысвяціце адпачынку, а не хатнім справам. Іх, вядома, таксама рабіць трэба, але яны пачакаюць.


**Блізняты.** Хочацца лётаць, аднак час ад часу прыйдзецца спускацца на зямлю і займацца паўсядзённымі руціннымі справамі.


**Рак.** Шмат ідэй, шмат жаданняў. Засталося іх толькі ўвасобіць у жыццё. Вас чакаюць розныя стадыі азарэння, а таксама праяўленне творчага патэнцыялу.


**Леў.** Ільвы не асабліва маюць патрэбу ў адпачынку, аднак гэта не значыць, што яны не жадаюць расслабіцца. Расслабляйцеся, але не забывайце паглядаць на гадзіннік, трэба ж ведаць меру.


**Дзева.** Старайцеся пазбягаць чужых канфліктаў, ёсць небяспека апынуцца іх удзельнікам.


**Шалі.** Каб не зведаць пачуцця глыбокага расчаравання, не займайцеся самакапаннем. Адпусціце тое, што было, падзякуйце ўсяму добраму, што прыйшло да вас, і жывіце сённяшнім днём. Вучыцеся радавацца жыццю.


**Скарпіён.** Займіцеся добраўпарадкаваннем свайго жылля, абнаўленне падорыць вам лёгкасць і натхненне.


**Стралец.** Не хапайцеся за тысячу спраў адразу, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым засяродзіць усю сваю ўвагу і намаганні.


**Казярог.** Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка.


**Вадалей.** Не звяртайце ўвагі на дробныя падкопы лёсу, да канца месяца вы ўжо нават і не ўспомніце, што вас хвалявала цяпер. Наладзьце сустрэчу для абмежаванага кола людзей, размовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дапамогуць узнавіць баланс у вашых бурных эмоцыях.


**Рыбы.** Ваша папулярнасць павышаецца не толькі на рабоце, але і далёка за яе межамі. Нечакана з’явяцца даўнія знаёмыя, пра якіх вы даўно ўжо і забыліся. Магчыма, яны чакаюць ад вас нейкай паслугі, але і самі змогуць дапамагчы. Гэта добры знак.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**8 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -4 / 0 | | -4 / -1 | | -3 / -1 | | -1 / +1 | |
| | 738 | → 4 | 733 | ↗ 3 | 733 | ↗ 3 | 732 | ↗ 2 |
| Вільня | -4 / -3 | | -3 / -2 | | -4 / -1 | | -2 / -1 | |
| | 746 | ↑ 2 | 740 | → 4 | 742 | ↑ 4 | 740 | ↘ 1 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.46
Захад 18.07
Даўжыня дня 9.21

Усход 12.32
Захад 03,54
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Пытаецца люты, ці добра абуты.
- Вецер на Яфрэма (10 лютага) – да сырога года.
- Зіма, як казна, сваё возьме.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Адкуль пайшоў род Самалёў? Гіпотэза краязнаўца Ігара Кіцікава.**

## КОНКУРСЫ

# Дзень судака адзначылі ў пяты раз


Фота забяспечана Святланай МАЦУКЕВІЧ.

**ВІЛЕЙКА. У дзяржаўным прафесійна-тэхнічны каледжы 30 студзеня адбылося юбілейнае шоу "Дзень судака-2014".**

Гэта шоу стала візітнай карткай не толькі каледжа, але і ўсяго вілейскага краю і ў пяты раз нагадала пра найсмачнейшую рыбу Вілейскага вадасховішча – яго вялікасць Судака.

Галоўнымі дзеючымі асобамі свята сталі каманды-ўдзельніцы. Каманда дзяўчат "Русалачкі", у склад якой увайшлі **Маргарыта Бугай, Алена Чэшык, Маргарыта Ганчарова**, і каманда юнакоў "Рыбакі" (**Іван Лукша, Андрэй Лапша, Аляксандр Субач**).

Спачатку каманды прадставілі сябе, сыгралі ў сцэнцы аб рыбаках, русалачках і цару падводнага царства, а потым прыступілі да гатавання судака.

Каманды, з бурнай падтрымкай заўзятараў, хутка і паспяхова справіліся з гэтым і прадставілі на суд журы смажаную рыбіну.

Нягледзячы на хуткасць прыгатавання, якую паказала каманда "Русалачкі", перамога была прысвоеная камандзе "Рыбакі". Старшыня журы дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў** падкрэсліў непаўторны смак судака, прыгатаванага камандай "Рыбакі", і запрасіў да ўдзелу ў шоу каманды іншых навучальных устаноў вобласці.

**Святлана МАЦУКЕВІЧ, педагог-арганізатар Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 6 (980) 7.02.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 106. Падпісана ў друк у 10.00 6.02.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.